# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 8 (2254) 20 лютага 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап).

НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

## АРКАДЗЬ СМОЛІЧ: ПАКАЗАННІ НА ДОПЫТАХ



27 верасня 1991 года споўнілася сто гадоў з дня нараджэння Аркадзя Антонавіча Смоліча. Але з іх для зямнога існавання яму было адведзена толькі сорак шэсць. Што ўмясцілі яны ў сабе?

Дзяцінства прайшло ў адным з маляўнічых лясных куткоў Беларусі — на Клічаўшчыне: у в. Бацэвічы, дзе нарадзіўся ў сям'і дыякана, і ў Саламерычах, куды ў хуткім часе пераводзяць бацьку. Вучыўся ў Мінску — у духоўным вучылішчы, затым семінарыі, пасля заканчэння якой паступіў у Кіеўскі політэхнічны інстытут, але амаль адразу пераведўся ў Нова-Александрыйскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства у Пулавах (Польшча). Аднак скончыў яго толькі ў 1916 годзе ўжо ў Харкаве, куды ў сувязі з вайной інстытут эвакуіраваўся. Перапынак — не па ўласнаму жаданню, а па волі кіраўніцтва інстытута, якое за ўдзел у рэвалюцыйным руху звальняе першакурсніка Смоліча з ліку студэнтаў. Палітычны выбар быў зроблены: «яшчэ ў бытнасць сваю ў Пулавах, — запісвае ён у лістападзе 1910 года ў дзённіку, — розныя ўспаміны — дзіцячыя, натуральныя, любоў да роднай прыроды і да ўсяго роднага нарадзілі пачуццё патрыятызму Беларускага. Ён падтрымаўся і шмат

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*ЗНАЁМІМ З ТВОРЧАСЦЮ МАЛАДЫХ*

## ЖАНЧЫНА, ЯКАЯ ХАЦЕЛА ПАРУШЫЦЬ ЗВЫЧАЙНЫ ПАРАДАК

Праўду гавораць людзі, што чалавек да ўсяго прывыкае, да самых неспрыяльных умоў прыстасоўваецца і нават яшчэ радуецца жыццю. Так і мы. Адстаяўшы пад Новы год гадзіны тры ці чатыры ў розных чэргах за ежай, змучаныя, узмакрэлыя і шчаслівыя, што будзе з чым сесці за святочны стол, выцягнулі свае няхітрыя пакупкі: масла, яйкі, хлеб, смятану... А для паўнаты шчасця ўключылі яшчэ і радыё, каб улагодзіць душу нейкай прыемнай мелодыяй. Хіба многа ўвогуле чалавеку трэба?!

Але тут заспявала яна:

**Я стаяў у чарзе па хлеб,**
**Дастаяўся, а тамака — соль.**
**Я спытаўся: «А дзе мой**
**хлеб!»**
**Мне далі скамянелую соль.**

**Ен стаяў у чарзе па хлеб,**
**Дастаяўся, а тамака — спірт.**
**Ен спытаўся:**
**«А дзе мой хлеб!»**
**А яму налівалі спірт.**

**Мы стаялі ў чарзе па хлеб,**
**Дасталяліся,**
**а тамака — смерць.**
**Мы спыталі:**
**«А дзе наш хлеб!»**
**Нам у вочы**
**глядзела смерць...**

Незнаёмы глухаваты і нізкі голас спявачкі, нечаканыя і небанальныя словы страшэннай праўды-прадчування працялі наскрозь, імгненна вярнуўшы ў нашу пастперабудовачную рэальнасць. У тую рэальнасць, дзе сэнс чалавечага існавання, як і ў першабытныя часы, зводзіўся да таго, каб здабыць недзе пражытак, выжыць фізічна.

Трохі пазней даведалася, што гэта спявала даволі вядомая ў маладзёжным асяроддзі і амаль невядомая шырокай публіцы бард Кася Камоцкая, з цікавасцю праслухала касету з нядаўна запісанымі ёю на радыё песнямі.

**Я хацела парушыць**
**звычайны парадак,**
**Мне хацелася збегчы**
**ад сытых агнёў...**

Чула голас і ўяўляла рашучую дзяўчыну - рэвалюцыянерку.

**Не, гэта не смерць —**
**вочы твае за шклом**
**у залатой смузе.**
**Я ў іх тану, тану...**

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ




Час сённяшні без перабольшання можна назваць часам змены шыльдаў і лозунгаў, веры і партыйнай прыналежнасці, арыентацый і прыярытэтаў. Прычым, само дэклараванне новых лозунгаў, канцэпцый і прыярытэтаў далёка апярэджвае працэс іх рэальнага ўвасаблення. Таму на гэтым накірунку грамадскага жыцця нам беспрацоўе не пагражае. Скажам, абвясцілі пастанову гарадскога Савета сталіцы: замяніць назву галоўнага праспекта Мінска з Ленінскага на Скарынаўскі, а новых шыльдаў няма — не ўпраўляюцца вырабляць, таму што не адзін праспект і не ў адным Мінску перайменоўваюць. А бывае яшчэ горш: не паспеюць новы дэвіз увекавечыць на плоце, як трэба яго мяняць. Ну хто сёння будзе арыентавацца на «моцныя рэспублікі» ды «моцны Саюз»! Ні таго, ні другога ўжо няма! Ёсць суверэнныя дзяржавы і іх садружнасць. Пакуль што. Сёння. Але ці будзе заўтра!

Вось і шыльда з магазіна «Палітычная кніга» паляцела. Дай Бог, каб назаўсёды, бо ўжо так тая палітыка ўелася людзям у душу. Гэта ж толькі прыгадаць, колькі каштавала выданне «класікаў» застойнага перыяду, утрыманне прапагандысцкага апарату, колькі часу было змарнавана на занняткі ў розных гуртках, семінарах, універсітэтах марксізму-ленінізму.

Здзіраюцца знешнія атрыбуты старога, але ці так проста ў душы людзей пранікае новае!



РБ І СВЕТ

## ПРЫНЯЛІ Ў САВЕТ ЕЎРОПЫ

У Мінск са Страсбурга (Францыя) вярнулася дэлегацыя Беларусі ў складзе намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Васіля Шаладонава, народнага дэпутата ад апазіцыі Валянціна Голубева і супрацоўніка Міністэрства замежных спраў Станіслава Агурцова.

Упершыню на асамблеі Савета Еўропы, у якой і ўдзельнічала дэлегацыя нашай рэспублікі, гучала беларуская мова.

Прадстаўнікі Беларусі былі заслуханы на пасяджэнні камісіі па правах чалавека і нацыянальных меншасцей. Камісія рэкамендавала прыняць Рэспубліку Беларусь у Савет Еўропы спецыяльна запрошаным членам. Наша дэлегацыя, у сваю чаргу, заявіла, што парламент і ўрад Беларусі зробяць усё неабходнае для захавання на яе тэрыторыі правоў чалавека і нацыянальных меншасцей.

ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА



**Пачалася аб'яўленая прэзідэнтам ЗША Д. Бушам аперацыя па аказанню гуманітарнай дапамогі краінам СНД.**
**Нядаўна ў аэрапорце «Мінск-2» зрабіў пасадку першы «Геркулес» — ваенна-транспартны самалёт ВПС Амерыкі. На яго борце з Франкфурта-на-Майне дастаўлена больш 20 тон медыкаментаў і медыцынскага абсталявання ў адрас Міністэрства аховы здароўя нашай рэспублікі.**
**НА ЗДЫМКУ: ідзе разгрузка самалёта з ЗША.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ У Мінску створаны Саюз беспрацоўных, які мае на мэце арганізацыю калектыўных дзеянняў па абароне права на працу.

◆ Гарадскія ўлады сталіцы ўзнялі памеры штрафаў за праезд у грамадскім транспарце без білета з 2-х да 20 рублёў.

◆ Замест міліцыі ў слынным мінскім гатэлі «Планета», дзе звычайна спыняюцца іншаземцы, за парадкам сочаць супрацоўнікі агенцтва бяспекі «СЮРТЭ».

◆ Украінскае грамадска-культурнае аб'яднанне Берасцейшчыны падало ў суд на абласны выканаўчы камітэт за адмову ў рэгістрацыі статута гэтай арганізацыі.

◆ Міністэрства замежных спраў РБ пераязджае ў будынак Мінскага гаркома партыі, дзе сённяшні міністр П. Краўчанка быў адным з сакратароў.

◆ У Беларусі дзейнічае 26 камерцыйных банкаў з аб'ёмам актыўных аперацый амаль на 230 мільярдаў рублёў.

◆ Узнікла новае таварыства «Беларусь — Ізраіль», прэзідэнтам якога стаў заслужаны архітэктар рэспублікі, аўтар мемарыяльнага комплексу «Хатынь» Леанід Левін.

◆ Поп-оперу «Максім» на вершы Максіма Багдановіча стварыў музыкант Дзяржаўнага аркестра Беларусі Ігар Палівода.

◆ У Мінску пачаў выдавацца дзіцяча-юнацкі часопіс «Вместе», які будзе распаўсюджвацца ў краінах Садружнасці, а таксама за мяжой былога СССР.

◆ Жыхар горада Барысава, інвалід вайны, 80-гадовы пенсіянер Васіль Чмых памёр у чарзе за малаком.

ВІЗІТЫ

**«Калі фіны скардзяцца на жыццё, я гавару ім: можа быць горш»,— з гэтага пачаў свой даклад «Сучасная Фінляндыя і перспектывы яе адносін з Рэспублікай Беларусь» фінскі пасол у краінах СНД Хейкі Талвіціе. А скончыў так: «Фіны і беларусы могуць адзін аднаму жыццё палепшыць». Візіт пана Х. Талвіціе ў Мінск быў незвычайным для дыпламата такога рангу. Упершыню ён прыбыў у сталіцу суверэннай дзяржавы па запрашэнню грамадскай арганізацыі — мінскага Ротары-клуба. Ротары-клубы існуюць у 163 краінах свету. Штаб-кватэра руху знаходзіцца ў амерыканскім горадзе Эвансан (штат Ілінойс). Асноўная мэта дзейнасці — дабрачыннасць.**
**Ротары-клуб у Мінску пачаў сваю работу ў канцы 1991 года. Цяпер у ім 35 членаў. У бліжэйшы час плануецца паездка дэлегацыі клуба па краінах Скандынавіі для наладжвання больш цесных эканамічных і культурных сувязей з краінамі гэтага рэгіёну, прыцягнення інвестыцый у эканоміку Беларусі і дабрачыннай дапамогі жыхарам рэспублікі.**



**НА ЗДЫМКУ: пасол Фінляндыі Х. ТАЛВІЦІЕ (злева) і прэзідэнт мінскага Ротары-клуба В. СМІРНОЎ.**

ШТО РАБІЦЬ?

# *ВІЛЕНСКАЕ ПЫТАННЕ*

Яшчэ год назад беларускія сродкі масавай інфармацыі рабілі выгляд, што пытання: «Каму па праву належыць Віленскі край?» — не існуе. Заява колішняга Вярхоўнага Савета БССР, у якой рабілася пагроза: калі Літва выйдзе з саставу СССР, то Беларусь патрабуе вярнуць перададзеныя ёй Сталіным Віленшчыну і іншыя землі, была проста прапагандысцкай бурбалкай. Яна нават не каменціравалася ў прэсе. БНФ, які нарадзіўся ў Вільні пад крылом «Саюдзіса», адчуваў няёмкасць свайго становішча і, не хочучы быць няўдзячным, не ўзнімаў гэтае далікатнае пытанне, каб не пакрыўдзіць суседзяў. Серыя артыкулаў у «Голасе Радзімы» — «Славянскія аспекты віленскай катастрофы», апублікаваныя год назад, была расцэнена некаторымі прыхільнікамі адраджэння як спроба выклікаць міжнацыянальны канфлікт.

Ды сёлета нешта сталася: забароненае ці добраахвотнае маўчанне прарывалася выступленнямі ў друку аўтараў розных палітычных арыентацый, рэзалюцыямі розных саюзаў. І не толькі ў нас, а і ў Польшчы. Усе прэтэндуюць на Віленшчыну.

Прапануючы розныя варыянты вырашэння віленскага пытання, беларусы сыходзяцца на тым, што мы не павінны забываць сваёй гісторыі і не дазваляць, каб тэрытарыяльныя праблемы вырашаліся без нашага ўдзелу.

Ніжэй мы змяшчаем рэзалюцыю III нечарговага з'езда «Славянскага Сабора».

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### «СЛАВЯНСКАГА САБОРА» III НЕЧАРГОВАГА З'ЕЗДА ПА ПРАБЛЕМЕ ВІЛЕНСКАГА КРАЮ

У 1939 годзе ў выніку гнюснай змовы, якой з'явіўся пакт Рыбентропа-Молатава, Віленскі край быў акупіраваны войскамі Літвы (Летувы), а шасцісотгадовы і вечна славянскі, як і ўвесь Віленскі край, горад Вільня ў хуткім часе быў перайменаваны і стаў сталіцай Літвы. Сёння пакт Рыбентропа-Молатава, не без удзелу ўрада Літвы, асуджаны і дэнансаваны кіраўніцтвам былога СССР. Аднак ні літоўскі бок, які прымаў актыўны ўдзел у гэтым працэсе, ні кіраўніцтва былога СССР і цяперашняй Расіі не паставілі пытанне аб вяртанні Віленскага краю Беларусі.

Толькі Беларусь валодае гістарычным і юрыдычным правам пераемнасці ў адносінах Віленскага краю, таму што стагоддзямі Віленшчына ўваходзіла ў склад старажытнай беларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Гэта пераканаўча пацвярджаюць старадаўнія дакументы і акты, вынікі вывучэння этнічнага рассялення славян, праведзенага ў канцы мінулага стагоддзя, а таксама даныя перапісу 1897 года, што маюцца ў агульнадаступных крыніцах. Сучасная ж Літва з'яўляецца пераемніцай толькі Жамойціі, на тэрыторыі якой у 1919 годзе і была ўтворана буржуазная Літоўская Рэспубліка (Letuvos Respublika).

Настойлівыя і мэтанакіраваныя дзеянні кіруючых колаў Літвы, што праводзіліся на працягу 50-гадовай акупацыі і зводзіліся да перасялення жыхароў заходніх раёнаў Літвы на тэрыторыю Віленшчыны, вымушаная эміграцыя славянскага насельніцтва, мэтанакіраваная рэлігійная палітыка, сталінскія рэпрэсіі, крывавыя падзеі Вялікай Айчыннай вайны — усё гэта прывяло да істотных дэмаграфічных змяненняў у Віленскім краі. Аднак і сёння славянскае насельніцтва краю складае большасць.

Зыходзячы з вышэйпададзенага, III нечарговы з'езд «Славянскага Сабора» заяўляе наступнае:

**1. У адпаведнасці з дэнансацыяй пакта Рыбентропа-Молатава і ў ажыццяўленне гістарычнай і прававой справядлівасці Віленскі край і горад Вільня (цяпер Вільнюс) павінны быць перададзены Рэспубліцы Беларусь.**

**2. Гэты працэс не супярэчыць Хельсінкскаму Пагадненню, падпісанаму кіраўніцтвам былога СССР, таму што тычыцца тэрытарыяльнага размежавання ў рамках былога СССР.**

**3. Каб пазбегнуць ускладнення палітычнай сітуацыі і непрадказальнага развіцця падзей, працэс перадачы Віленскага краю разам з горадам Вільня Рэспублікі Беларусь павінен праходзіць пад наглядам ці з удзелам прадстаўнікоў суседніх дзяржаў.**

III нечарговы з'езд «Славянскага Сабора» звяртаецца да камандавання Узброеных Сіл СНД, да камандзіраў часцей і падраздзяленняў усіх родаў войск Савецкай Арміі, пагранічных і ўнутраных войск, дыслацыраваных у Літве.

**1. Месца дыслакацыі часцей і падраздзяленняў усіх родаў войск Савецкай Арміі, пагранічных і ўнутраных войск у рамках межаў Віленскага краю і ў горадзе Вільня павінны заставацца нязменнымі.**

**2. У выпадку вываду войск з прыбалтыйскіх дзяржаў часці і падраздзяленні Савецкай Арміі, пагранічных і ўнутраных войск з заходніх раёнаў Літвы могуць быць перадыслацыраваны толькі на тэрыторыю Віленскага краю і горада Вільня.**

**3. Узбраенне і баявая тэхніка ўсіх родаў войск без выключэння, а таксама склады матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і ўся іншая маёмасць часцей і падраздзяленняў Савецкай Арміі, пагранічных і ўнутраных войск, дыслацыраваных у заходняй частцы Літвы, у выпадку іх перадыслакацыі павінны быць перабазіраваны на тэрыторыю Віленскага краю і горада Вільня, але ні пры якіх абставінах не павінны быць перададзены літоўскаму боку.**

*(Рэзалюцыя падрыхтавана сакратарыятам арганізацыі «Славянскі Сабор — Белая Русь» у Мінску і прынята на пленарным пасяджэнні III нечарговага з'езда Міжнароднай няўрадавай арганізацыі «Славянскі Сабор» 19 студзеня 1992 года ў Маскве).*

**«СЛАВЯНСКІ САБОР»—міжнароднае экстэрытарыяльнае грамадскае аб'яднанне, мэта якога — узнаўленне адзінай нацыянальнай этнічнай прасторы і менталітэту славян праз пераадоленне дзяржаўнай, тэрытарыяльнай, канфесійнай, палітычнай і экалагічнай раз'яднанасці.**

**Штаб-кватэра Славянскага Сабора знаходзіцца ў Маскве.**

**Яго прадстаўніцтва ёсць у Мінску, Кіеве, Варшаве, Санкт-Пецярбургу і іншых гарадах.**

**На III з'ездзе Сабора, дзе абмяркоўваліся пытанні нацыянальна-палітычнага становішча ў славянскім свеце, бяспекі славянскіх народаў, актуальныя праблемы дэмаграфіі і экалогіі, навукі, асветы і культуры, прысутнічалі дэлегацыі з Польшчы, Славакіі, Сербіі, Чарнагорыі, Балгарыі, Канады і ЗША.**

## ДЗІВОСЫ, СХАВАНЫЯ Ў ЧАЛАВЕЧЫМ АРГАНІЗМЕ



**Магчымасці чалавечага арганізму сапраўды бязмежныя. У гэтым яшчэ раз пераконваешся, пабываўшы ў школе псіхатворчасці, што ў Мінску на вуліцы Камуністычнай, 86.**

**Цуды, якія дэманструюць слухачы школы пасля пяці заняткаў, а менавіта на столькі разлічаны экспрэс-курс, нікольні не саступаюць таму, што мы бачым на сеансах Джуны, Чумака, Кашпіроўскага. Чалавек, не прыбягаючы да дапамогі ўрачоў і экстрасенсаў, самастойна можа зняць любы боль, стрэсавы стан, значна ўзмацніць рухальны патэнцыял і рассунуць межы памяці, хутка вывучыць замежную мову ці авалодаць новай прафесіяй.**

**Новая методыка, што дазваляе выходзіць на супермагчымасці як у галіне ўласнага здароўя, так і ў прафесійнай дзейнасці, распрацавана кандыдатам педагагічных навук дацэнтам Н. Жарыкавым. Ад ужо існуючых традыцыйных метадаў абучэння псіхарэгуляцыі яе адрознівае даступнасць, прастата, самастойнасць і індывідуальнасць сферы прымянення. З дапамогай спецыяльнага «супернавыка» кожны можа падключыць рэзервы свайго арганізма да вырашэння любых задач.**

**Для фарміравання гэтага навыка дастаткова некалькі заняткаў, а вынікі праяўляюцца непасрэдна ў час навучання. Але галоўнае заключаецца ў тым, што тут пад кіраўніцтвам вопытных псіхолагаў чалавеку дапамагаюць развіць свае здольнасці, патрэбу ў пастаянным самаўдасканальванні, вучаць псіхалагічнай самаахове ў наш нялёгкі, перапоўнены стрэсамі час.**

**НА ЗДЫМКУ: пасля другога занятку любы са слухачоў школы самастойна можа выконваць такі складаны трук, як каталіптычны мост.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

## ДЭМАГРАФІЧНЫЯ НАТАТКІ

# ПЕРАВАЖАЮЦЬ БЕЛАРУСЫ

### ЯК АДБЫВАЕЦЦА ФАРМІРАВАННЕ СУЧАСНАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА САСТАВУ НАСЕЛЬНІЦТВА РЭСПУБЛІКІ

У фарміраванні сучаснага нацыянальнага саставу насельніцтва Беларусі важную ролю адыграла міграцыя насельніцтва, што звязана з асаблівасцямі яе гістарычнага развіцця. У пачатку XIII стагоддзя тэрыторыя сучаснай Беларусі ўваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, з XVI стагоддзя — Рэчы Паспалітай, пакуль не адышла пад руку Масквы ў канцы XVI стагоддзя.

Шматлікія войны, што вяліся на нашай зямлі гэтымі дзяржавамі, прыводзілі да знішчэння карэннага насельніцтва. Акрамя гэтага на тэрыторыю Беларусі прыходзілі чужынцы, якія асядалі на заваяваных землях.

Уключэнне беларускіх зямель у састаў Рэчы Паспалітай прывяло сюды вялікую колькасць палякаў. У час праўлення князя Вітаўта ў Беларусь, на землі цяперашняй Гродзенскай вобласці, з Ноўгарадскай зямлі была перасялена вялікая колькасць рускага і фінскага насельніцтва, якое прыжылося тут, уносячы значны пабочны элемент у састаў насельніцтва Беларусі, і, нарэшце, злілося з ім. Пасля ўдалага паходу супраць Крымска-Татарскай арды Вітаўт перасяліў з Крыма ў Беларусь некалькі тысяч татар, якія аказалі пэўны ўплыў на склад яе насельніцтва.

Разам з літоўцамі і палякамі на тэрыторыю Беларусі прыйшло шмат яўрэйскага насельніцтва. Упершыню яўрэі з'явіліся тут яшчэ ў XI—XII стагоддзях, калі іх цяснілі правіцелі заходнееўрапейскіх краін.

Асабліва інтэнсіўны прыток яўрэяў у Беларусь пачаўся з прыходам палякаў, у XVI стагоддзі. Яны з'явіліся тут разам з увядзеннем польскімі каралямі магдэбургскага права для гарадоў, па якому іншаземцы (яўрэі, немцы, армяне і інш.) маглі свабодна пражываць, свабодна гандляваць, займацца рамёствамі і нават земляробствам. Ужо ў канцы XIV стагоддзя склаліся і існавалі яўрэйскія абшчыны ў Брэсце, Гродне і іншых месцах. Вялікі прыток яўрэяў у Беларусь адбыўся пасля 1648 года ў сувязі з яўрэйскімі пагромамі на Украіне. Асабліва павялічылася яўрэйскае насельніцтва ў Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губернях.

Пра разнастайнасць нацыянальнага саставу насельніцтва сведчаць назвы вуліц многіх беларускіх гарадоў:

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

# АРКАДЗЬ СМОЛІЧ: ПАКАЗАННІ НА ДОПЫТАХ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

умацаваўся беларускай літаратурай». Аркадзь Смоліч далучаецца да беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, уступае ў Беларускую сацыялістычную грамаду.

Падчас вучобы ў інстытуце пасля аднаўлення ён цвёрда вызначае і свой прафесійны выбар: навуковая праца, як адзначаў у дзённіку, «над фізічнай і эканамічнай геаграфіяй». І ў палітыцы, і ў навуцы яго вяла адна ідэя: паспрыяць адраджэнню роднага краю, зрабіць усё ад яго залежнае, «каб Беларусь перастала быць краем, невядомым для саміх беларусаў». Талент, воля, неверагодная працавітасць і арганізаванасць далі яму магчымасць праявіць сябе на абодвух напрамках. Ён стаяў ля вытокаў утварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, дзе займаў пасады народнага сакратара земляробства, намесніка старшыні Рады БНР, з'яўляўся надзвычайным паслом пры Украінскім урадзе. У БСГ і БНР займаў пазіцыі на левым флангу, быў адным з тэарэтыкаў беларускай сацыял-дэмакратыі.

Аднак у пачатку 20-х гадоў прыходзіць расчараванне палітыкай, якая не дае вынікаў. «З палітыкі выходжу,— піша ён аднаму з лідэраў БНР Б. Тарашкевічу,—і то ў днях найбліжэйшых...» У жніўні 1922 года па дамоўленасці з урадам БССР А. Смоліч пераязджае ў Мінск. Параўноўваючы палітыку Польшчы ў адносінах да беларускага народа (амаль не прыкрытай паланізацыі) і тагачасную савецкую, якая ў хуткім часе атрымае назву палітыкі беларусізацыі, ён прыходзіць да вываду, што менавіта апошняя адпавядае ідэалам беларускага адраджэння. І робіць свой выбар.

Па прыездзе працуе аграномам-эканамістам, загадчыкам аддзела ў Наркамаце земляробства, чытае курс геаграфіі рэспублікі і краіны ва універсітэце, дзе стварае кафедру краязнаўства. У 1925 годзе становіцца дацэнтам, а ў студзені 1927 і прафесарам (першым у Беларусі) геаграфіі. З 1926 года — намеснік старшыні Інстытута беларускай культуры. Значны яго ўклад у пераўтварэнне інстытута ў Акадэмію навук. У 1928 годзе разам з У. Ігнатоўскім, С. Некрашэвічам, В. Ластоўскім ён распрацоўвае яе першы статут. У новай установе займае кафедру геаграфіі.

І ўсе гады — напружаная навуковая праца, у якой ён ніколі ані на хвіліну не зведваў расчаравання. У 1919 годзе ў Вільні ён выдае «Кароткі курс геаграфіі Беларусі», які ў 1925 годзе, перапрацаваны і дапоўнены, перавыдаецца ў БССР. Ён быў ацэнены як «лепшы падручнік, напісаны для вучняў нашай беларускай школы». Пасля 1919 года і да 1930-га А. Смоліч апублікаваў больш за 30 навуковых прац па праблемах ландшафтазнаўства, раяніравання, картаграфіі, эканомікі, навуковай беларускай тэрміналогіі. За дзве з іх — «Размяшчэнне насельніцтва БССР» і «Сельскагаспадарчыя раёны, папярэдняя схема і метадалагічныя ўвагі» — ён быў узнагароджаны залатым медалём Дзяржаўнага Рускага геаграфічнага таварыства. Гэтымі працамі, па словах П. Сямёнава-Цян-Шанскага, А. Смоліч пракладаў шлях, «который вводит экономическую географию в круг географических наук». Не кожнаму дадзена адкрыць новыя шляхі ў навуцы.

І было на той момант Аркадзю Антонавічу ўсяго 39 год. І сілы ёсць, і вопыт назапашаны. Толькі тварыць. Але ішоў 1930 год. І другі год бушавала ўжо распачатая сталінскай камандай кампанія па разгрому так званага нацыянал-дэмакратызму. І ўжо шылася спрытнымі шаўцамі з АДПУ цалкам сфальсіфікаваная «справа» контррэвалюцыйнай, антысавецкай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі», па якой будуць арыштаваны і асуджаны калегіяй АДПУ 90 чалавек — цвет беларускай інтэлігенцыі. А. Смоліч у тым ліку. Ён быў арыштаваны 26 чэрвеня 1930 года, а 10 красавіка 1931 года адміністрацыйна высланы ў г. Оса Уральскай (цяпер Пермскай) вобласці. Потым быў пераведзены ў г. Ішым Омскай (цяпер Цюменскай) вобласці. Працаваў у леспрамгасе, райспажыўсаюзе, Саюзхарчгандлі, выкладаў у жывёлагадоўчым тэхнікуме, педагагічным тэхнікуме. 17 чэрвеня 1937 года — новы арышт і новы прыгавор, на гэты раз смяротны. 17 чэрвеня 1938 года ён быў расстраляны ў Омскай турме.

Жонка А. Смоліча, якая з трыма дзецьмі жыла з мужам у ссылцы, толькі ў 1957 годзе даведалася аб яго смерці. Тады ж 9 лютага 1957 года пастановай Прэзідыума Цюменскага абласнога суда рашэнне тройкі УНКУС ад 10 чэрвеня 1938 года па абвінавачванню А. Смоліча было «отменено и делопроизводство прекращено». Але толькі 10 чэрвеня 1988 года ён быў канчаткова рэабілітаваны «за отсутствием в его действиях состава преступления», як адзначана ў пастанове калегіі Вярхоўнага суда БССР.

У жыццеапісаннях вядомых дзеячаў беларускага нацыянальнага адраджэння да нядаўняга часу адчувальна не хапала цэлага пласта дакументаў з архіваў КДБ, дакладней, АДПУ — дакументаў следства і прысуду па іх «справах». У чым іх абвінавачвалі, чаго дамагаліся ад іх, як трымаліся яны на допытах — заставалася невядомым. Зараз такія дакументы пакрысе становяцца вядомымі даследчыкам. (У прыватнасці, матэрыялы следства па так званай «справе СВБ», у тым ліку ўласнаручна напісаныя паказанні А. Смоліча). Выняткі з іх мы і прапануем чытачу. (Мы былі б рады надрукаваць іх цалкам, аднак іх аб'ём, большы за сто машынапісных старонак, робіць гэта немагчымым).

Безумоўна, адносіцца да іх трэба з пэўнай асцярожнасцю, таму што цяпер ужо не сакрэт, якімі сродкамі маральнага ціску і фізічнага ўздзеяння дабываліся паказанні. Тым не менш у аснове іх ляжаць факты сапраўдных біяграфій. Рэпрэсіўная машына яшчэ не адпрацавала свае метады, не стварыла дакладны механізм апрацоўкі ахвяр. Следчыя, па большасці малаадукаваныя, у адпаведнасці з атрыманай установкай здавальняліся прызнаннямі падследных у нацыяналізме, нацыянал-дэмакратызме, самаабвінавачваючымі ацэнкамі сваіх поглядаў і дзейнасці. Фальсіфікацыі фактaлагічнай асновы яны, як правіла, яшчэ не дамагаліся. І таму, калі зняць гэтыя ацэнкі, эпітэты, замяніць на іншыя (напрыклад, нацыяналістычнае на нацыянальнае), перад намі застанецца вельмі каштоўная крыніца інфармацыі.

Калі чытаеш паказанні А. Смоліча, не пакідае ўражанне, што і ён гэта добра разумеў і мэтанакіравана імкнуўся выкласці на паперы як мага больш фактаў, даць апісанне падзей з разлікам, што будучыя гісторыкі разбяруцца і ў яго бядзе, і ў яго віне, разбяруцца, што ж адбывалася з краінай.

Калі чытаеш паказанні падследных па «справе СВБ», бачыш, як той ці іншы бараніў сябе і ці ўдалося (і наколькі) зберагчы свой гонар, не агаварыць сяброў па няшчасцю. А. Смолічу — у найбольшай ступені. Як нам вядома, ні адно з яго паказанняў не змагло быць выкарыстана для абвінаваччванняў каго-небудзь з «падзельнікаў», не ўвайшло ў падборку вытрымак, якія прадстаўляліся ў Парткалегію ЦК КПБ, дзе вырашаўся лёс беларусаў-камуністаў (У. Ігнатоўскага, З. Жылуновіча, А. Баліцкага, А. Адамовіча і іншых). Чытаючы паказанні А. Смоліча, бачыш, як яго востры, аналітычны розум даходзіў да разумення сапраўднага сэнсу і падаплёкі павароту ў палітыцы, метадаў і прыёмаў гульні АДПУ з фальсіфікацыяй справы СВБ. І ў многім перайграў следчых. Існавання арганізацыі не пацвердзіў, замах «нацдэмаў» на ўладу, на захоп камандных вышынь у савецкім і партыйным кіраўніцтве гэтаксама. Больш таго, апавядаючы аб сваім лёсе, аб нацыянальным руху на Беларусі да кастрычніка 1917 года, аб дзейнасці так званых нацдэмаў у 20-я гады, здолеў паказаць між радкоў і маштаб руху, і значнасць іх укладу ў палітыку беларусізацыі. Хаця, безумоўна, і яму прыйшлося нечым пастуміцца.

Мы змяшчаем выняткі з паказанняў А. Смоліча ў храналагічным парадку, як яны даваліся на следстве, і на мове арыгінала — рускай мове. Апошняе таксама паказальна: Аркадзь Антонавіч цудоўна валодаў рускай літаратурнай мовай.

Лёс зводзіў А. Смоліча з многімі людзьмі. Калі такія знойдуцца сярод беларускай эміграцыі і ў іх узнікне жаданне адгукнуцца на публікацыю, падзяліцца сваімі ўспамінамі аб А. Смолічу, аб палітычных рэпрэсіях у Беларусі ў 20—50-я гады, аўтары былі б вельмі ўдзячныя.

**Аляксей КАРОЛЬ,**
**Уладзімір МІХНЮК.**

---

**Фрагменты пратаколаў допыту А. СМОЛІЧА пачынаем друкаваць з наступнага нумара.**

## ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ

# ВЫЗВАЛЕННЕ ЦІ НЯВОЛЯ?

## 1939 ГОД — У НАШАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯДОМАСЦІ

V

Антон Луцкевіч — гэта цэлая эпоха ў гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Адзін з заснавальнікаў першай беларускай палітычнай партыі, рэдактар легендарнай «Нашай Нівы», гэтай калыскі нашага адраджэньня, прэм'ер Рады Міністраў незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, Старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў міжваенны перыяд — вось даволі няпоўны сьпіс пасад Антона Луцкевіча, якія ён займаў у беларускім нацыянальным руху. Вельмі высокім быў у яго міжнародны аўтарытэт. У 1919 годзе ён прымаў удзел у Версальскай мірнай канферэнцыі ў якасці прадстаўніка незалежнай Беларусі. Менавіта дзякуючы яго асабістым высілкам, ідэя беларускасці сталася зразумелай на такім важным міжнародным форуме, а вялікія дзяржавы атрымалі ўяўленне, што паміж Польшчаю і Расіяй жыве шматмільённы беларускі народ, народ, які абудзіўся ад векавой спячкі і хоча заняць свеё пачэснае месца сярод народаў Еўропы. Антон Луцкевіч быў асабіста знаёмы з моцнымі гэтага свету: з Юзафам Пілсудскім, Ігнацым Падарэўскім і, як сцвярджаюць некаторыя, з самім Уладзімірам Леніным.

Роля Антона Луцкевіча ў беларускім нацыянальным руху — асобная вялікая тэма, і мы можам яе толькі часткова закрануць у гэтым артыкуле.

Напярэдадні ўваходу Чырвонай Арміі ў Вільню ў верасні 1939 года Антону Луцкевічу споўнілася 55 гадоў. Працаваў ён у якасці дырэктара беларускага музея імя яго брата Івана Луцкевіча, выкладаў таксама ў Віленскай беларускай гімназіі. Яго асабісты аўтарытэт нават сярод польскіх улад быў даволі высокі. У сярэдзіне 30-х гадоў беларускі музей быў залічаны ў лік дзяржаўных музеяў Польшчы, і на яго ўтрыманне дырэктар атрымаў дзяржаўную датацыю. Такім чынам, Антон Луцкевіч стаў адным з вельмі нешматлікіх беларускіх палітычных дзеячаў, які быў польскім дзяржаўным служачым. Можа і не варта было адзначаць гэтую дробную акалічнасць, калі б мы рабілі кароткую біяграфічную нататку аб Антоне Луцкевічу, але тут у нашым выпадку яна набывае вельмі сімвалічнае значэнне. Дзяржаўная пасада Луцкевіча для энкавэдыстаў была сведчаннем яго супрацоўніцтва з санацыйнымі ўладамі Польшчы. Нездарма савецкая прапаганда 30-х гадоў залічала Луцкевіча ў лік галоўных прадстаўнікоў беларускага фашызму. Прапаганда гэтая, дарэчы, была нагэтулькі прымітыўная, што яна без разбору спалучала ў адну групу Луцкевіча з Радаславам Астроўскім, хаця гісторыкам добра вядома, што паміж імі ў 1933 годзе адбыўся канчатковы разрыў. Справа, як вядома, дайшла да судовага разбірацельства паміж імі. Але ў савецкіх прапагандысцкіх выданнях надалей фігураваў стэрэатып... «Астроўска - Луцкевічскай беларуска - фашысцкай зграі».

Іван Клімаў, галоўны савецкі камісар па беларускіх справах у Вільні, таксама, як ён асабіста прызнаваў, ставіўся да Антона Луцкевіча як да прадстаўніка беларускага фашызму. Як жа ў гэтым выпадку дайшло, хай сабе да хвілёвага, але ўсё ж такі да нейкага супрацоўніцтва паміж Луцкевічам і савецкімі акупацыйнымі ўладамі? Чаму Клімаў з палкоўнікам Пятровым дазволілі яму выступіць на вядомым Лукішскім мітынгу? Справа тут не такая простая.

Іван Клімаў успамінае: «На другі дзень пасля нашага ўваходу ў Вільню да мяне з'явілася беларуская дэлегацыя ў складзе трох чалавек». Клімаў прыпомніў толькі двух са складу гэтай дэлегацыі. Былі гэта Нікандр Трэпка і Францішак Грышкевіч. Напэўна ў складзе дэлегацыі не было Луцкевіча, але члены яе спрабавалі гаварыць з савецкімі ўладамі ад яго імя. Ці ж бы напярэдадні яны ўзгоднілі з ім свой візіт? Шмат даводзіцца рабіць прыпушчэнняў, але адно ясна: Луцкевіч меў ілюзію, што супрацоўніцтва (хай сабе і абмежаванае) можа пайсці на карысць яго народу.

У Вільні перад вайной існаваў, бадай што, адзін на свеце навуковы саветалагічны цэнтр. Быў гэта так званы Інстытут нацыянальных спраў. Акрамя іншых праблем, інстытут гэты займаўся вывучэннем і беларускага пытання. Польскія навукоўцы былі зацікаўлены ў сапраўдным высвятленні генезіса беларускага нацыянальнага руху, таму да супрацоўніцтва тут запрашалі і беларускіх дзеячаў. Севярын Віслаух, бадай што, вядучы польскі даваенны спецыяліст-навуковец па беларускіх справах, успамінаў: «У 1935 годзе польска-савецкую мяжу перайшоў ці то першы, ці то другі саккратар Полацкага райкома КПБ. Уцёк ён на польскі бок не з пустымі рукамі. Прыцягнуў з сабой шмат сакрэтных партыйных дакументаў, амаль што не ўвесь раённы партыйны архіў. Распрацоўка гэтых дакументаў была даручана менавіта Севярыну Віслауху, які запрасіў да супрацоўніцтва Антона Луцкевіча. Віслаух прыгадваў, што перад групай польскіх навукоўцаў адчыніўся сапраўды жахлівы вобраз калектывізацыі, прымусовай індустрыялізацыі, голаду, масавых расстрэлаў, высылкі і да т. п. Адчыніўся гэты вобраз і перад Антонам Луцкевічам. Такім чынам, ён добра ведаў і сутнасць улады, якая ў верасні 1939 года прыйшла ў Вільню. І хіба не павінен быў мець ілюзій, што да сутнасці супрацоўніцтва з ёй. Але ўсё ж такі на гэта супрацоўніцтва пайшоў. Чаму?»

24 верасня па ініцыятыве Івана Клімава ў актавай зале беларускай гімназіі адбыўся агульнагарадскі сход беларускіх культурнаасветных работнікаў з нагоды прыходу Чырвонай Арміі на заходнебеларускія землі. Сярод запрошаных прыняць удзел у ім быў і Антон Луцкевіч. Выступіў ён на гэтым сходзе з вельмі знамянальнай, выразна прасавецкай прамовай. Зацытуем за Анатолем Сідарэвічам (аўтарам кнігі пра Антона Луцкевіча) урывак з гэтай прамовы: «Сёння цяжар панскага прыгнечання і нацыянальнага ўціску скінуты назаўсёды. Беларусь зноў стала адзінай. Ніякія граніцы не будуць падзяляць адзіную беларускую зямлю. Працоўныя беларусы будуць жыць у сяброўстве.

Вялікая праца перад намі, праца дзеля адбудовы ўсяго таго, што гадамі падміналася і нішчылася польскімі панамі. Трэба нанова аднавіць загнанае ў падполле беларускае мастацтва, мову і культуру. Шмат давядзецца папрацаваць інтэлігентам-беларусам. Мы павінны ўключыцца ў работу такім чынам, каб ужо ў бліжэйшы час зрабіць выразны крок наперад у асвеце як у горадзе, так і на вёсцы.

Утварэнне адзінай вольнай Савецкай Беларусі адчыняе для беларускай культуры шлях хуткага развіцця наперад. Ніколі ўжо працоўнаму беларусу не будуць пагражаць астрогам і нялюдскім здзекам».

У адрозненне ад Анатоля Сідарэвіча, які трактуе гэтую прамову Луцкевіча ў якасці праявы яго нязломнасці і трывалай пазіцыі ў абарону беларускай культуры і асветы, я лічу, што ён пайшоў на вельмі далёкі і спрэчны кампраміс з самім сабой, са сваімі поглядамі. Пры ўсёй маёй павазе да Анатоля Сідарэвіча і да яго плённай адраджэнцкай працы абсалютна нельга пагадзіцца з ім, што Антон Луцкевіч застаўся самім сабой, утрымаў свае антыкамуністычныя пазіцыі ва ўмовах новай савецкай акупацыі. На жаль, вышэйпрыведзеныя словы Антона — гэта не што іншае, як «песнь аб шчасці беларускага народа ва ўмовах БССР». Гэтага нельга не заўважыць. І ў гэтым якраз заключаецца выключны трагізм сітуацыі, трагізм асабістага лёсу аднаго з першых беларускіх адраджэнцаў.

Гэта быў час, калі нават самыя нязломныя бальшавікі (фанатыкі камуністычнай ідэі) прызнаваліся ў неіснуючых смяротных грахах, у тым, што яны германскія, польскія і нават японскія агенты. Сын вымушаны быў адмаўляцца ад бацькі і даносіць на яго. Бацькі асуджаваць сваіх дзяцей за выдуманыя злачынствы. Татальны тэрор і шпіёнаманія, здавалася, не пакідалі ніякага месца на нейкія нармальныя чалавечыя адносіны. І вось гэтую праўду, як мне здаецца, якраз добра разумеў Антон Луцкевіч.

Ён запрапанаваў супрацоўніцтва бязлітаснаму лютаму зверу, ён свядома ўвайшоў у яго клетку, свядома зрабіў ахвяру свайго жыцця, каб хоць нейкім чынам уратаваць тыя нешматлікія здабыткі і вартасці беларускасці, якія існавалі ў тагачаснай Заходняй Беларусі. Для беларусаў, для беларускай культуры, якую няшчадна нішчылі яе ворагі па абодва бакі польска-савецкай граніцы, пытанне стаяла вельмі драматычна: быць альбо не быць беларускаму народу, быць альбо не быць яго самабытнасці.

У гэтым якраз і заключаецца вытлумачэнне дзеянняў Антона Луцкевіча пасля ўваходу Чырвонай Арміі ў Вільню. Сваёй прапановай супрацоўніцтва ён намагаўся ўратаваць хаця б тое нешматлікае з нацыянальных вартасцяў свайго народа, што захавалася ў Заходняй Беларусі. Ён намагаўся затрымаць альбо спазніць удар карных сталінскіх органаў супраць беларускай незалежніцкай інтэлігенцыі. Намагаўся ён даць магчымасць іншым схавацца і дачакацца лепшых часоў.

Ці ж удалося яму гэтых мэт дасягнуць? Часткова напэўна так, хаця доля наіўнасці і ілюзій у яго дзеяннях была. Напэўна яму ўдалося ў нейкай ступені зменшыць маштаб антыбеларускіх рэпрэсій, дапамагчы некаторым беларускім дзеячам пер態трываць савецкую акупацыю. У гэтым сэнсе ахвяра яго не была непатрэбнай, але яна, зразумела, не была ў стане змяніць агульны карны кірунак савецкай палітыкі ў адносінах да беларускага народа.

Вось чаму Антон Луцкевіч, як справядліва сцвярджае Аляксандра Бергман, увайшоў у гісторыю як фігура трагічная. Увесь ягоны жыццёвы шлях быў адзначаны гэтым невымоўным трагізмам, трагізмам пакутніка за свой народ, за сваю веру ў беларускасць. Трагізмам быў напоўнены і яго апошні драматычны крок, крок у кірунку супрацоўніцтва з камуністычнымі ўладамі. І таму сёння мы не маем ніякага права асуджаць яго за гэта, мы павінны зразумець яго і выбачыць.

Надзвычай драматычнымі былі абставіны арышту Антона Луцкевіча, аб якіх падрабязна расказаў мне Іван Клімаў. Уладам не хацелася паказваць, што беларускія дзеячы ва ўзнагароду за жаданне супрацоўніцтва могуць атрымаць толькі новыя рэпрэсіі. Таму сам арышт быў абстаўлены вялікай сакрэтнасцю. Але аб гэтым у наступнай частцы нашай працы.

**Мікола ІВАНОЎ.**

# ПЕРАВАЖАЮЦЬ БЕЛАРУСЫ

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 3-й стар.).**

Нямецкая, Руская вуліца ў Брэсце, Руская Слабада ў Полацку, у Гродне.

Пасля ўз'яднання беларускіх зямель з Расіяй узраслі эканамічныя і культурныя сувязі паміж імі, разам з тым павялічыліся і міграцыйныя працэсы. У Беларусь, галоўным чынам у гарады, прыйшла значная колькасць рускага насельніцтва — салдаты, рамеснікі, чыноўнікі. Многа рускіх з'явілася тут яшчэ ў XVII і пачатку XVIII стагоддзяў, у часы царавання Аляксея Міхайлавіча і Пятра І. Гэта былі рускія раскольнікі — стараабрадцы, якія ўцякалі ад праследавання праваслаўнай царквы. Найбольш шматлікія іх пасяленні былі ў паўднёвай, палескай частцы Беларусі, у цяперашняй Гомельскай вобласці, асабліва па рацэ Сож.

Пасяленні татар вядомыя на тэрыторыі Беларусі з канца XIV стагоддзя. Прыйшлі яны з Крыма і Паволжа. Частка татарскіх пасяленцаў была запрошана на ваенную службу вялікімі князямі літоўскімі, другія былі бежанцамі, трэція — ваеннапалоннымі. Цыганы з'явіліся на тэрыторыі Беларусі даўно. Прыйшлі яны з Германіі і Польшчы.

Да канца XIX стагоддзя на тэрыторыі цяперашняй Беларусі жыло шэсць мільёнаў 250 тысяч чалавек, з іх 78, працэнтаў — беларусы, 4,9 працэнта — рускія і ўкраінцы, 2,3 працэнта — палякі, 13,7 працэнта — яўрэі і 0,9 працэнта — іншыя нацыянальнасці. Беларускае насельніцтва пераважала ў сельскай мясцовасці, у гарадах жа — рускае, яўрэйскае, польскае. Нацыянальны састаў гарадскога насельніцтва раскрывае своеасаблівае становішча беларускіх гарадоў. Яны былі запоўнены прышлым элементам, які па сваёй колькасці амаль утрая перавышаў карэннае беларускае насельніцтва. Так, гарадское насельніцтва Мінскай губерні ў 1897 годзе складвалася з беларусаў на 11,8 працэнта, з яўрэяў — на 59 працэнтаў, з велікаросаў — на 20 працэнтаў і з палякаў — на 7,2 працэнта. Перавага яўрэйскага насельніцтва ў гарадах тлумачыцца нацыянальнай палітыкай, якую праводзіў царскі ўрад. З канца XVIII стагоддзя для іх была ўстаноўлена мяжа аседласці. Месца пражывання іх абмяжоўвалася пятнаццаццю заходнімі губернямі (у тым ліку беларускімі). Яўрэям забаранялася набываць зямлю ў прыватную ўласнасць, сяліцца за межамі гарадоў. У гарадах Беларусі яны складалі асноўную масу гандлёва-рамеснага насельніцтва.

Інтэнсіўныя міграцыйныя працэсы адбываліся ў час першай сусветнай вайны. Так, перапіс насельніцтва 1926 года паказаў, што адбылося паніжэнне долі яўрэйскага насельніцтва ў гарадах, павялічыўся працэнт рускіх і беларусаў.

Значныя міграцыйныя перамяшчэнні адбываліся і ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Толькі ва ўсходнія раёны былога СССР з Беларусі было эвакуіравана паўтара мільёна чалавек. 380 тысяч жыхароў рэспублікі фашысты гвалтоўна вывезлі на катаржныя работы ў Германію. Больш мільёна чалавек змагаліся на франтах, 440 тысяч партызанаў і падпольшчыкаў вялі барацьбу на акупіраванай ворагам тэрыторыі. Страты насельніцтва ўсіх нацыянальнасцей на тэрыторыі Беларусі за час другой сусветнай вайны, па самых сціплых падліках, можна вызначыць у тры з палавінай мільёна чалавек.

У пасляваенны час, згодна з міжнароднай дагаворанасцю паміж Польшчай і СССР, Польскай Народнай Рэспубліцы было перададзена семнаццаць раёнаў Беластоцкай вобласці разам з Беластокам і тры раёны Брэсцкай вобласці. Да 1950-га года праведзена дэмаркацыя граніцы з Польскай Народнай Рэспублікай. Разам з гэтым адбыўся абмен насельніцтвам паміж СССР і Польшчай. У 1944—1948 гадах з Заходняй Беларусі выехала 274,2 тысячы палякаў. З 1955 па 1958 год паток мігрантаў быў меншым і зводзіўся ў асноўным да ўз'яднання сем'яў. Колькасць беларусаў, якія перасяліліся з Польшчы, была параўнальна невялікай. За 1945—1946 гады ў БССР пераехала 37 тысяч чалавек.

Пасля вайны ў Беларусь прыбыло многа рускіх. Гэта былі кваліфікаваныя кадры, якія ехалі будаваць і працаваць на новых заводах, камбінатах, фабрыках.

Міграцыі ваенных і пасляваенных гадоў значна змянілі нацыянальную структуру насельніцтва рэспублікі. Як сведчаць даныя перапісу, сёння самай прадстаўнічай нацыянальнай групай тут з'яўляюцца беларусы. Другое месца займаюць рускія. Колькасць беларускага насельніцтва з 1959 па 1989 год павялічылася на 21 працэнт, рускага — у два разы, украінскага — у 2,2 раза, яўрэйскага — скарацілася на 32 працэнты, польскага — на 22,5. Скарачэнне колькасці яўрэяў і палякаў звязана з інтэнсіўнай эміграцыяй гэтых нацыянальных груп у пасляваенныя гады, асабліва ў 1986—1991 гады.

**Ала ПЕШКАВА,**
**кандыдат**
**геаграфічных навук.**

## НЯЗРУЧНАЯ ТЭМА—РЭПАТРЫЯЦЫЯ

# ВЯРТАННЕ НАВУМА ЦАРЫКА,

## альбо КОЛЬКІ ПУДОЎ СОЛІ НАКАНАВАНА «З'ЕСЦІ» ВЕТЭРАНУ ЭМІГРАЦЫІ

У жорнах крызісу, пад націскам хцівасці, разбойнага дзяляцтва, карупцыі, у ашалелым аднабаковым гоне ў бок спакуслівага замежжа, калі затоптваюцца, паднімаюцца на смех і пагарду самыя кволыя праявы патрыятызму, любові да Айчыны, нейкімі дзівакамі здаюцца адзіночкі — рээмігранты «адтуль». Якія каштоўнасці ў нас сёння можна знайсці, апроч адходаў «новай рэвалюцыі» і перабудовы? Што згубілі яны тут сярод хворых, разгубленых, узлаваных землякоў?

Іх, рэпатрыянтаў, нямнога, але яны ёсць, Да аднаго з такіх і прывёў мяне шлях ў вёску Барысава, што ў чатырох-пяці вярстах ад Кобрына. Пераступаю парог вялікай, па-гаспадарску дагледжанай, змураванай з белай цэглы хаты і вітаюся з пажылым чалавекам невысокага росту. Ён моцна пацiскае мне руку. «Гадоў пад шэсцьдзесят пяць, семдзесят...», —машынальна адзначаю сам пра сябе. Уявіце маё здзіўленне, калі тут жа даведваюся, што гады тыя цягнуцца ажно з самага пачатку веку, ад 1901-га, у якім і нарадзіўся ў вёсцы Хабовічы Кобрынскага раёна Навум Царык.

Гэткаму даўгалеццю і захаванню вечнай маладосці паспрыяла, відаць, перш за ўсё жыццёвая закваска, што ад прашчураў: здаровая, быццам марозна-сонечная лютаўская раніца, быццам хрусткі снег. («Да дактароў ніколі не хадзіў, зубы свае маю, акуляры не нашу»). І гэтыя ягоныя словы, і памяць, як у маладога дзецюка, якую равеснік веку прадэманстраваў затым, зацвердзілі мяне ў падазрэнні, што аднойчы яшчэ рушыць ён, з'яўляючыся ўдаўцом, на пошукі новай каханкі. Чаго яму і жадаю. А можа праявілася эмігранцкая загартоўка, вандроўка даўжынёю ў жыццё?

— Во, можа быць і так, — згаджаецца Навум Сцяпанавіч. — Тым болей, што гартоўка пачыналася ў Сібіры. А там клімат слаўны...

У першую сусветную вайну, якая і адкрыла рахунак старонкам яго асабістай адысеі, сям'ю Царыкаў вывезлі ў бежанства ў Омск. Праз восем гадоў, атрымаўшы неблагую па тым часе пачатковую адукацыю, папрацаваўшы памочнікам сакратара вытворчага аддзела чыгуначнай станцыі, пераехаў малады Навум пад бацькоўскі дах. На радзіме прыпынак быў больш кароткім: зайгралі горны войска польскага, паклікалі пад ружжо. Служба, як і тагачаснае жыццё («Каб ведаў, з Сібіры ў Польшчу, што заняла тады Беларусь, ніколі не вярнуўся б»), не задавальнялі жаўнера Царыка. І не ахвота да перамены месцаў штурхала ў спіну:

— Жылося тады не дай Бог... Палітыка праводзілася такая, каб апалячыць беларускі народ. Закрываліся беларускія школы, размаўляць — а ні па-свойму, а ні па-руску. А тут і цэны пайшлі ўверх, не раўнуючы, як цяперака. Вось і зноў я ўзяўся пакаваць валізку, сабраўся ў Амерыку. Аднак свабодны выезд у Злучаныя Штаты і Канаду ўжо абмяжоўваўся.

...Затое выехаць у Паўднёвую Амерыку было лёгка, тым болей, што Навуму прыслаў запрашэнне сябрук — аднасяльчанін. Заставалася адно: на пероне кобрынскага вакзала сесці на цягнік, на прыстані марсельскага порта перабрацца на параход, каб праз месяц апынуцца ў Аргенціне і распрэгчы змучаных коней лёсу на пяцьдзесят восем гадоў. (А плаванне ж мовао свайго таленту намаляваў геніяльны Чарлі Чаплін у знакамітым фільме. Як і там, эмігрантаў кармілі выключна рыбай, паілі выключна сухім вiном, да якіх наш чалавек быў дужа нязвыклы. І пакуль хтосьці шчыраваў за чаркай, нарэшце рассмакаваўшы, прайграваў у карты апошнія нагавіцы, пакутаваў ад бесперапыннай гайданкі на капрызных руках Атлантыкі, руплівы і прадбачлівы Навум Царык з дапамогаю руска-іспанскага слоўніка і «бывалых» людзей зубрыў мову Мігеля дэ Сэрвантэса. Потым, як знайшоў...).

У краіне срэбра без цяжкасцей адразу ўладкаваўся на саляныя капальні прыгожага партовага горада Баія Бланка, ад якіх, хутчэй за ўсё, і пайшла ягоная назва, у перакладзе — Белы Заліў.

Здабываў соль зямлі Навум Царык 24 гады.

— На гэту работу перш за ўсё набіралі імігрантаў, больш працавітых і здатных, чымсьці карэнны люд. Зараблялі добра. Як выйшаў на пенсію, купіў рэстаран, валодаў нерухомасцю —двума дамамі. Па вайне адкрылася ў Буэнас-Айрэсе савецкае консульства, і газеты надрукавалі зварот да імігрантаў з нашых краёў: хто жадаў, мог прыняць савецкае грамадзянства. І я з сотнямі маіх землякоў змяніў польскі пашпарт на савецкі, каторы трымаю і дагэтуль.

Жыццяпіс Навума Царыка кропля да кроплі ёсць гісторыя не аднаго яго, а цэлага пакалення працоўных эмігрантаў «старой» хвалі, жывой і неад'емнай часткі Бацькаўшчыны, для якой усе яе дзеці, далёкія ці блізкія, — родныя.

Наважыўся быў у папярэднім сказе падабраць больш выразныя эпітэты да слова «эмігранты», накшталт «гаротныя», «знявечаныя» і г. д. Можа і адпавядалі б яны свайму прызначэнню, рэчаіснасці, аднак жа бачу, што не маракуе, не кляне «замежную» фартуну ветэран эміграцыі.

Тады што за чарвяк непаседлівасці, вандравання прымусіў яго прадаваць на скорую руку немаленькае майно (там свая бюракратычная цяганіна), зрывацца з добра абжытага лацінаамериканскага гнязда, на старасці год адмахаць 17 тысяч кіламетраў і з галавою акунуцца ў рукатворнае мора разрухі, чэргаў, чарнобыльскага попелу? Хоць выбіраўся ў дарогу Навум Царык яшчэ на світанку нашых пераўтварэнняў, калі і аргенцінская, і сусветная грамадскасць у захапленні скандзіравала: «Гор-бі! Гор-бі!», «Пе-ре-строй-ка!» А можа памыліўся, шкадуе?

Некалькі разоў задаваў я гэтыя пытанні, адчуваючы, што сваёй нахабнасцю варочаюся ў душы дзевяностагадовага чалавека, як слон ў пасуднай краме.

— Ведаеце, збіраліся мы з жонкай даўно прыехаць. Яна была родам з Украіны. Памерла, не дачакалася. Каб мелі мы дзяцей, то, вядома, не прыехаў бы, — даў першы адказ мой суразмоўца, прызнанне, якое лішні раз падкрэслівала залежнасць асабістай пуцявіны жыцця ад наяўнасці прадаўжальнікаў роду.

— Быў у Аргенціне крызіс... Змянілі і там грашовую адзінку песа на аўстраль: здарылася гіперінфляцыя. Многа незадаволеных, — пачуў я і другую прычыну, што нібыта пацвердзіла тэму звергнутага Маркса аб вызначальнай ролі быцця, эканамічнага базісу. І асабліва ў дачыненні да шукальнікаў лепшага зарбоку, дзе б ён ні знаходзіўся.

— Як чаго ехаў? Прыцягвае да сябе Радзіма. Я ж яе пяцьдзесят восем гадкоў не бачыў. Тут жывуць чатыры мае браты. Пісалі: можаш нічога не везці, толькі сам прыязджай, — вырвалася са слязамі ў вачах трэцяя недагаворная, няхітрая матывацыя. Можа банальная, можа сентыментальная. Ды многім замежным суайчыннікам бацькоўскі надворак, засланы дываном з духмяных рамонкаў і вусатага падарожніку, месца матчынай пяшчоты і пацалункаў,— магутная крыніца святла і магнетызму, што і свеціць, і грэе, і кліча. І не забыць, не адкупіцца, не засланіцца...

Аднак, адгукнуўшыся на гэты покліч, сённяшнім днём пачуваецца Навум Царык у становішчы збянтэжанага Саўкі. Цяжка яму, мякка кажучы, век звекаваўшы ў іншых варунках, прывыкнуць да нашага спосабу дзеяння і мыслення. Цяжка зразумець, чаму няма магчымасці атрымліваць на рукі ўласным гарбом заробленыя грошы. Справа ў тым, што з яго аргенцінскага рахунку пераводзіцца ў Барысава пенсія. Раней пры існаванні «Знешпасылгандлю», сістэмы «Бярозак» узамен на долары атрымліваў рээмігрант славутыя чэкі ў адносна супастаўляльнай прапорцыі, як сам лічыць. У сучасны момант згаданыя ўстановы разам з былым Савецкім Саюзам адмерлі. І летась «зарабляў» Навум Сцяпанавіч з кожнага пераводу ў сто пятнаццаць доларам недзе прыблізна 215 «дзеравянных» рублёў. А курс долара ў адносінах да рубля, што не сакрэт, імкнецца да адзнакі 1:200. Да таго ж мясцовая адміністрацыя заявіла, што і купоны, праваобраз будучай нацыянальнай валюты, яму не прадугледжаны. Канешне, ёсць краіны, асабліва слаба развітыя, якія кантралююць валютныя паступленні сваіх грамадзян, залазяць у іх кішэню. Але робяць гэта ў нейкіх дапушчальна цывілізаваных памерах, далікатна дастаючы прывабнае яе змесціва двума пальчыкамі. Ды не цэлай жа пяцярнёй абдзіраць, як ліпку.. (Вядома, маецца на ўвазе перш за ўсё іміграцыйная палітыка былога Саюза). Хоць, як высветлілася, тая ж мясцовая адміністрацыя так далёка стаіць ад турбот перасяленца-іншаземца, як ад самой Аргенціны. (Балазе, што жыве стары пад апекаю пляменніцы). Праўда, нейкія зрухі ў лепшым накірунку нібыта абяцаюць мець месца сёлета.

Не ведаю, колькі пудоў солі «з'еў» на аргенцінскіх капальнях Навум Царык, але ўсё да канца не выбраў...

Піша сябрук: прыязджай, Навуме, падзялюся хатай...

Слухаў я і думаў, што быў бы мой суразмоўнік маладзейшым, ухапіўся б за лейцы і ў чарговы раз борзда-борзда пагнаў бы коней долі-нядолі ў Белы Заліў... Між іншым, падобныя прыклады таксама магу прывесці. І што, на гэтым разе павернецца ў вас язык кінуць ім услед асуджэнне? А ў дзеда Навума, нягледзячы ні на што, пакуль такіх намераў няма. Я —дома, кажа...

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**



**Брама ў Траецкім прадмесці.** **Фота В. СТАВЕРА.**

## ЛЮБЫЯ СЭРЦУ МЯСЦІНЫ

# НЁМАН, НЯМУНАС, МЕМЕЛЬ...

Якіх толькі паданняў няма пра самую што ні ёсць беларускую раку! Вось адно з такіх вусных казанняў — «Як нарадзіліся Нёман і Лоша».

«Пра Нёман расказваюць так. Даўно гэта было. Недалёка ад вёскі Забалацце, што на нашай Уздзеншчыне, з-пад вялікага лазовага куста выбілася крынічка. Вада ў ёй была халодная, як лёд, а чыстая, як дзявочая сляза. Вада тая ўсё прыбывала, большала, аж пакуль не пабегла па двух ручайках. Так вось нарадзіліся рэкі Нёман і Лоша. Нёман быў шчыры і крэпкі хлапец, а Лоша ціхая, лянівая і хітраватая дзеўка. Яшчэ больш падужэўшы, Нёман аднойчы сказаў Лошы:

— Раздолле трэба мне, волі захацелася. Буду як мага прабівацца да мора.

Нічога не сказала на гэта Лоша, толькі сама сабе надумалася навыперадкі бегчы з Нёманам і першай выскачыць к мору.

Назаўтра яшчэ не развіднела, яна ціхенька ўстала і пайшла па нізінах ды па далінах да мора.

Прачнуўся Нёман, угледзеў, што Лошы няма, ну й кінуўся наўздагон, не разбіраючы дарогі, напрасткі.

З таго часу ён так і ляціць, паспяшае да мора, магутны і шырокі, а Лоша плыве сабе ціха, хаваючыся ды тулячыся па кустах і нізінах».

Гэта так апавядаецца ў народных паданнях. А дзе на самай справе бярэ пачатак вялікая і магутная беларуская рака Нёман? А пачынаецца яна ўсяго ў 45 кіламетрах на паўднёвы захад ад Мінска, на Стаўбцоўскай раўніне на Уздзеншчыне і мае назву Нёманец. Гэты ручаёк, інакш і нельга сказаць, бярэ свае вытокі ля вёскі Верх-Нёман. Дзіўныя і паэтычныя назвы маюць Нёман і Нёманец. А паходзяць яны ад старажытнаславянскага слова «немынь», што азначае «нешырокі». І сапраўды, калі зірнеш на гэту вузкую рачулку, у некаторых месцах пераплюйку (а ўсяго Нёманец 25 кіламетраў даўжыні), то цяжка ўявіць Нёман — гэту магутную раку, скажам, у раёнах гарадоў Масты, Гародня, ля Друскенікаў, Каўнаса ці Савецка.

Нёман — гэта назва ракі па-беларуску, па-літоўску ён ужо Нямунас, а па-нямецку мае найменне Мемель. Вось так на тры народы доўгі час працавала гэта адна з самых буйных водных артэрый Еўропы. Але час мяняе твар нашай зямлі. Не стала пасля пераможнага 1945 года нямецкага горада Мемеля (ён атрымаў літоўскую назву Клайпеда), і знікла з геаграфічных карт пасля Вялікай Айчыннай вайны нямецкая рака Мемель. Сёння Нёман працякае праз дзве вобласці (Мінскую і Гродзенскую) Рэспублікі Беларусь (459 кіламетраў), бяжыць па Літве (476 кіламетраў), часткай па межах з Калінінградскай вобласцю Расіі і ўпадае ў Куршскі заліў.

Спрадвеку ў басейне Нёмана пасяляліся людзі, дзесьці ўжо каля 4 тысяч гадоў таму назад тут склалася своеасаблівая, так званая нёманская культура ў Верхнім і Сярэднім Панямонні. А першыя сляды дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах выяўлены 100—40 тысячагоддзяў да новай эры. У кнізе беларускага пісьменніка Аляксея Карпюка (аўтара вядомай аповесці «Данута») аб Гродзеншчыне згадваецца пра шахты часоў неаліта ў Ваўкавыскім раёне, дзе здабывалі крэмній, а таксама пра майстэрні, дзе яго апрацоўвалі.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ІЗ АГНЮ ДЫ Ў ПОЛЫМЯ

Міхась КАВЫЛЬ

Працяг. Пачатак у № 7.

Палову фляконьчыка выліў у шклянку і такую-ж порцыю наліў вады. Атрымалася сумясь, белая, як малако. Зацiснуўшы ноздры пальцамі, глытнуў «залпам» горкую пякучую труцізну. Нейкі «доктар», што сядзеў дзесь у пячонках і селязёнках Язэпа, закрычаў: «Досыць мне гэтай гадасьці!» Язэпа званітавала і адразу стала лягчэй. А пахадзіўшы із кута ў куток па невялічкім пакойчыку з паўгадзіны, Язэп змог сесьці за стол і афармляць «Пасьведчаньні» аб заканчэньні сямігодкі для Фралова Андрэя, Сізова Валянтына і Сініцына Янкі.

Чыстыя бланкі «Пасьведчаньняў» ляжалі ў сундучку пад ложкам разам з іншымі школьнымі «справамі». Язэп выняў тры экзампляры і... ледзь не падскочыў ад радасьці. Ды як было не падскочыць, калі «Пасьведчаньні» былі падпісаны дырэктарам І. В. Тарасавым і ўсімі настаўніцамі і настаўнікамі... Нябожчык Іван Васільявіч быў, як бачна, запасьлівы чалавек. Язэпу Лабачу не давялося зьвяршаць крымінальнае праступства: падрабляць подпісы. Яму заставалася толькі напісаць прозьвішчы вучняў... А гэта быў таксама крымінал, але крымінал, ад якога, у выпадку чаго, можна было апраўдацца: «Я «Пасьведчаньні» ня выпісваў і не падпісваў... Гэта справа былога дырэктара... Я толькі выдаў «Пасьведчаньні», якія Іван Васільявіч чамусьці затрымаў...» Супакоіўшы сам сябе развагай, Язэп такім-жа сінім чарнілам, якім былі падпісаны «Пасьведчаньні», панапісваў прозьвішчы Фралова, Сізова і Сініцына. Не пасьпеў ён прамакнуць апошняе прозьвішча, як нячутна ў хату ўвайшла яшчэ нестарая смуглая жанчына. Павітаўшыся, яна назвалася: «Я — Аўдоця Фралова, маці Андрэя, вашага вучня...»

Язэп запрасіў яе прысесьці, але яна адмовілася, кажучы: «Дзякую, дзякую! Я пастаю, я не надоўга... Вось-жа мой сын Андрэй езьдзіў у Варонеж, каб паступіць у школу лётнікаў. Яму сказалі, што яго з ахвотаю прымуць у тую школу, але ён мусіць мець пасьведчаньне аб сканчэньні сямігодкі. Як нам казаў Андрэй, ён сямігодку закончыў, але пасьведчаньне аб заканчэньні не атрымаў, бо яно яшчэ чамусьці не прыйшло із Тамбова. Можа, яно ўжо прыйшло?..»

— Прыйшло, прыйшло! — абрадаваў Язэп госьцю. — Вось маеце пасьведчаньне для вашага сына...

Жанчына ўзяла дрыготкімі пальцамі паперку. На смуглявым твары яе прамільгнула ружовасьць, а ў вачах бліснулі сьлязінкі.

Ужо пераступаючы парог, падзякавала Язэпу за пасьведчаньне.

Лабач ведаў, што Аўдоця Фралова жыве не ў Давыдаўцы, а ў калгасе «8 сакавіка», далекавата ад Давыдаўкі, на паўдзённым усходзе. Праз вакно Язэп бачыў, што яна не пайшла дадому, а накіравалася ў сельсавет. І Лабач ня без падставы падумаў: «Словы, якія ён пачуў ад Фраловай — навука старшыні сельсавету Кашына. З такімі ж словамі, напэўна, прыйдуць і Сізова, і Сініцына. Яны, напэўна, сядзяць зараз у сельсавеце, чакаюць Фралову: з чым яна вернецца...» І Язэп не памыліўся. Перш прыйшла Сізова, а пасьля Сініцына. Прыйшлі з тымі-ж: «Як казаў мой сын, ён школу закончыў, але пасьведчаньні яшчэ не прыйшлі...»

Сініцына прыйшла з невялічкім пакуначкам. Атрымаўшы пасьведчаньне, яна паклала пакуначак на стол і накіравалася да дзьвярэй.

— Вазьмеце свой пакуначак! — напомніў Язэп, але Сініцына сказала: «Гэта мы для вас скляліся, каб адудзячыць вам за вашу дабрату.

— Нічога мне не трэба, — аднекваўся Лабач, але жанчына не ўзяла пакуначак і разьвіталася. Язэп пацікавіўся, што-ж у тым пакуначку. Расхіліў бруднаватую анучку, убачыў тры звараныя яйкі... «Скляліся па яйку... Самі недаядаюць, а ўсё-ж «скляліся». ...Дзякую вам, бедныя тамбаўчанкі! Хоць вы належыце да вядучай нацыі, жывяце ў чарназёмнай паласе, але такой галечы я ў роднай Беларусі не бачыў». Падумаўшы так, Лабач выйшаў у сенцы і паклаў яйкі на паліцы. Есьці яму з перапою не жадалася. Карова ў куце думала свае галодныя думы, не паглядзела нават на Язэпа, быццам ведала, што нічога ён для яе не прынёс. Але памылілася. Ён узяў у кошыку бацьвіньне буракоў і паднёс Лысусе, як карову клікала гаспадыня, і прынёс вядро вады. Бацьвіньне карова жавала спакваля, быццам расьцягвала найдаўжэй асалоду. На ваду нават не паглядзела. Яна жадала есьці, а ня піць. «Бедная пагарэліца. Лепш было б для цябе і для нас з Барбарай, каб ты падсмажылася на тым пажары, у якім пагарэлі твае сяброўкі. Можа, і нам старшыня Карпыч даў-бы пару кілаграмаў твайго мяса, хоць і худзюшчага, а ня ўсю цябе, каб мы даглядалі, аж пакуль збудуюць новы кароўнік». Пажаліўшыся ў такі спосаб сам сабе, Язэп палёпаў рукою па худых рэбрах Лысухі і вярнуўся ў хату.

Была нядзеля. Сшыткі вучняў прагледжаны. Што было рабіць маладому самотнаму хлапцу? Радыё няма. Газэтаў няма. Раней хадзіў да настаўніка «фізыка» Салаўёва. Той меў радыё (свае вытворчасьці) і цікавую жонку Галю. Радыё слухалі толькі, калі перадавалі навіны, а так да позняй ночы рэзаліся ў карты, пераважна ў «дурня». Калі б Лабач паддаўся падмірганьням Галі, маглі-б яны зрабіць з «фізыка» сапраўднага дурня... А тым болей цяпер, калі Салаўёў ваюе, а Галя засталася сама... Не ляжала ў Язэпа да яе сэрца, хоць яна была, як кажуць, «бабка з агеньчыкам». Язэп ня кідаўся на ўсякі «агеньчык», хоць і ведаў, што аб яго не апячэцца. Ня кідаўся таму, што ўжо палымнеў агнём да свае былое вучаніцы, дачкі раённага пракурора — Клашы Пятровай. Даўно Язэп ня бачыўся з Клашай, бо дачуўся, што яна яму здраджае з сынам аптэкара. Здраду цяжка даравацы, цяжка перажываць. Ужо болей як месяц перажываў Язэп ростань з Клашай. Болей перажываць ня меў сілы, рашыў пабачыцца і пачуць ад яе, што яна скажа. «Можа, — падумаў Язэп, — Галя наўмысьне яму нэманіла, каб адбіць яго ў Клашы. Маладыя жанчыны чортам падплецены...»

І Язэп Лабач узяў напрамак на мястэчка Ваўчок. Ад Давыдаўкі да Ваўчка болей за дзесяць кіляметраў. Улетку Язэп езьдзіў туды на вэлёсыпэдзе. Цяпер, у гразюку, пра вэлёсыпэд няма чаго і думаць, трэба тую гразюку мясіць сваім «адзінаццатым нумарам». Мясіў Язэп гразюку і ламаў галаў над тым, як і дзе ён убачыць Клашу. Цяпер, надвячоркам, яна напэўне дома, але заходзіць у хату ён баяўся Клашынага бацькі Пятра Міхайлавіча, раённага пракурора. Гэта быў суровы чалавек. Не задарма яго празвалі «Чапай». Гэтага «Чапая», кажучы ў рыфму, лепей не чапай. А Лабач зачапіў: пакахаў ягоную дачушку... Хаця, не. Пакахала Язэпа дачушка... Што-ж у гэтым дрэннага? Цешыцца-б трэба было пракурору, што яго дачушка пакахала настаўніка, а ня нейкага там брыгадзіра ці трактарыста. Але, можа, пракурор, стары камуніст, быў-бы задаволены з выбару Клашы, калі-б яе «выбар» ня быў з кляймом «ненадзейны элямэнт». Пракурор ведаў пра мінулае Язэпа Лабача, а таму загадаў жонцы і Клашы: «Каб яго тут і нага не была». Але ні пракурорша, ні Клаша загад ня выконвалі. Язэп ведаў пра гэты загад. Брат Клашы Міхась запрашаў Язэпа да сябе ў такі час, калі бацькі ня было дома. Так пачупаць прасіла Міхася Клаша. Міхась любіў сваю сястру Клашу, любіў за прыгожасьць, за дабрату, а таму ніколі ні ў чым ёй не адмаўляў. Ён-жа, можна сказаць, і зьвёў Клашу з Язэпам. Клаша, як толькі «новы настаўнік» першы раз увайшоў у дзявятую клясу дзесяцігодкі, паглядзела на Язэпа Міхайлавіча і, можна сказаць, прапала. За ёю «прыўдарваў» да гэтага часу настаўнік матэматыкі Іван Рудакоў. Раней Клаша заляцанкі Рудакова цярпела, бо ёй не давалася матэматыка. Убачыўшы Язэпа Лабача, белатварага, з блакітнымі вачыма, маладзейшага за матэматыка, настаўніка расейскай мовы і літаратуры, Клаша адшыла Рудакова і не давала спакою брату Міхасю, прасіла, каб ён неяк няўпрыкметкі зьвёў яе з яе сымпатыяй. Міхась пазнаёміўся з Язэпам на валейбольнай пляцоўцы. Язэп даваў Міхасю «сьвечкі», якія той удала «тушыў». Аднойчы пасьля заканчэньня гульні Міхась прапанаваў Язэпу прайсьціся ў сад, што знаходзіўся за «плячыма» пракурорскага дому. Праз той сад працякала рачушка Ваўчанка, дзе можна было пакупацца. Язэп згадзіўся прайсьціся з сынам пракурора, службоўцам райвыканкому, бо ня меў з кім пагутарыць, убіць час, якога «ня было куды дзяваць». Адыйшліся яны ад дому пракурора ня так далёка і спатkaліся з Клашай і яе сяброўкай Зінай, як даведаўся пазьней Язэп, каханкай Міхася. Як раней дамовіліся брат з сястрою, Міхась падхапіў пад руку Зіну і пацягнуў у сад. Клаша засталася з Язэпам... Разгубленая стаяла яна на палявой дарозе, глядзела на жоўценькі пясок, які разграбала босаю нагою, саромелася падняць свае вочкі на настаўніка. Язэп, гледзячы на Клашыны вочы, падумаў: «Чмялі... Такія бухматыя чорныя чмялі калісьці я лавіў на сенажаці каля Грэскае пушчы. Кусаюцца тыя чмялі, моцна кусаюцца». І сапраўды Клашыны «чмялі» моцна ўкусілі Язэпа за сэрца, але ён гутарыў і паводзіўся з Клашай так, як і трэба паводзіцца настаўніку з вучаніцай. Пайшлі яны ў сад, шукалі Міхася з Зінай, але не знайшлі і надвячоркам вярнуліся ў мястэчка. Пры разьвітаньні Клаша папрасіла «на памяць» палачку, якую Язэп выразаў у лазовым кусьце і павыразаў на ёй разьлічныя вузоры, як яны сядзелі на беразе Ваўчанкі. Язэп з ахвотай падарыў палачку і ў замену, жартуючы, папрасіў: «А ты мне падары хоць аднаго «чмяля»... Клаша не зразумела пытаньня, ня ведала, што адказаць, а Язэп засьмяяўся і памахаў ёй рукою. Пазьней Клаша гатова была падарыць абодва свае «чмялі» разам з трапяткімі гарачымі вуснамі. Язэп не асьмеліўся ўпіцца ў вусны Клашы. Не асьмельваўся не таму, што баяўся пракурора, а таму, што Клаша была ягонай вучаніцай. Ведаў Язэп Лабач, што яму пагражае, калі пра яго амаральны паступак даведаецца дырэктар дзесяцігодкі, а тады Райано, а тады і пракурор. Калі пракурор не застрэліць, дык Райано ня будзе цацкацца, а выпіша «пуцёўку» із дзесяцігодкі... Таму Лабач спатыкаўся з Клашай толькі ў клясе. Праўда, сядзелі яны некалькі разоў увечары на лавачцы пад бэзам каля дому Клашы, але ў прысутнасьці брата Міхася.

Клаша, ды ня толькі яна, а ўсе прыгожыя дзяўчыны, ня вельмі падкія да навукі, бо на іх падкія хлапцы. Язэп Лабач ведаў: калі ён не дапаможа Клашы, яна засыплецца на іспытах, якія хутка меліся адбыцца па расейскай мове, і не пярэйдзе ў дзесятую клясу. А гэта аддаліць яго мару:

**«Не хавацца па-за вугольлем,**
**Даць пачуцьцям волю...»**

Таму ён рашыў рызыкнуць: даць Клашы перапісаць тэкст дыктоўкі... І даў. Даючы, прасіў: «Клаша, я хачу, каб ты была па расейскай мове не апошняя вучаніца, а першая».

Клаша, зачырванеўшыся, спытала: «А чаму вы, Язэп Міхайлавіч, хочаце, каб я была першай?..» Лабач падумаў было зманіць, сказаць, што яна яго першае каханьне, але Клаша ня была яго першым каханьнем. Першая была Алеська, суседка, дзяўчынка з бялявымі касічкамі і блакітнымі вочкамі. О, як Язэп яе кахаў! Ня ведаў, як ёй дагадзіць, каб яна, як пасьвілі коней, не прасіла Шастуновага Вінцуся паглядзець яе коней, пакуль яна сходзіць пасьнедаць, а прасіла толькі яго. Але Алеська яго не прасіла, а бяз просьбы аддавала аброці Вінцусю. Цяжка перажываў гэтую няўвагу да сябе Язэп. А як даведаўся, што Алеська сьпіць з Вінцусям на начлезе пад кустом, ледзь валасы сабе на галаве не вырываў. Шчапіўся адзін раз біцца з Вінцусям, насілу іх разьнялі старэйшыя хлапцы. Доўга змагаўся Язэп сам з сабою, але паступова перамог агонь у сэрцы. А як паехаў у Менск вучыцца, там прычапілася да яго студэнтка першага курсу Алеська Зубовіч. Язэпу яна падабалася толькі тым, што звалася Алеся. А яшчэ тым, што часта паказвала беленькія зубкі, была весялуха. Алеся адзін раз заманіла яго ў тэхнікумаўскі сад і там палезла абдымацца і цалавацца. Што ён мог рабіць?.. Не ўдалося з першаю Алеськай каханьне, дык чаму не скарыстаць другую Алеську? І Язэп скарыстаў: нацалаваўся, ажно вусны папухлі. А назаўтра выклікаў дырэктар Белпэдтэхнікуму Южык яго і Алеську ў настаўніцкую і, паказваючы пальцам на вусны Язэпа, пракрычаў: «Каб мне гэтага болей не паўтаралася!..» Далі праступнікі слова не паўтараць, але паўтаралі... А тыя першыя пацалункі і паўторныя падглядаў сэксот ГПУ Васіль Туміловіч, які сачыў за Лабачом, западазроным у нацыяналізьме... Дырэктар Южык болей на допыты «праступнікаў» ня выклікаў, бо Лабача неўзабаве арыштавалі... Ды і Южыка таксама заграбасталі і расстралялі як польскага шпіёна... Але гэта ўжо із другой «опэры». Што да каханьня, дык быў у Язэпа яшчэ адзін раман. Ён, паверце, разыграўся ў канцлягеры на Далёкім Усходзе. Там, недалёка ад Уладзівастока, будавалі водную сыстэму, празваную «Другі Байкал».

Пры ўзрыве скалы, аскепак граніту пакалечыў Язэпу вока. Ад фізічнай працы яго асвабадзілі, але накіравалі ў УРЧ (улікова - разьмяркавальную часьць) рахункаводам. Там да Язэпа прыстала тэлефаністка, маскоўская блатнячка Валя Савельева. Як толькі Язэп сядзе за стол, Валя падбяжыць, сядзе насупраць яго на табурэцы і сваім каленам шмаруе па каленях Язэпа. А адзін раз, не дабіўшыся нічога шмараваньнем, папрасіла: «Хадзем у нашую жаночую прыбіральню... Там зачынімся і...» Язэп вылупіў ад зьдзіўленьня вочы. «Чорт яе ведае, што ёй адказаць? — падумаў. — Зловяць, тады што?.. Яна-ж начальнікава «падсьцілка»... Мала ёй гэпэвушніка, сьвежанькага зажадала, паскудніца. А які-ж я кавалер? Ледзьве ногі цягаю, а яна-ж, як жаробка, ад'елася начальнікавымі падарункамі... Каб адчапіцца ад нахалкі, Лабач ня стаў далікатнічаць, а адпіхнуў нагу Валі і адказаў: «Чаго гэта табе, Валюша, зажадалася з дахадзягам?.. Мала табе твайго начальніка?..» — «Нямала — пачуў Язэп прыемны голас Валі, — але ён ня хоча, каб я мела дзіцё, а я хачу дзіцё... Ад цябе хачу мець... А чаму?.. Таму што гэты кабель хутка мяне выганіць на чорныя работы. Ён ужо нагледзяў сабе маладзейшую за мяне. Я ў катлаван ісьці, бегаць там па трапах з тачкаю не жадаю. Калі забярэменяю, мяне адашлюць у лягер мамкаў... Ёсьць такі... Капыш, даражэнькі контрык?.. «Пракапышаўшы». Валя працягнула Язэпу рукі. Ня ўсьпеў Язэп сабрацца з думкамі, як нечакана дзьверы рашчыніліся, у пакой уляцеў сухарлявы, высокі, у гэпэвушнай форме начальнік УРЧ. Убачыўшы Валю не каля тэлефона, а каля Лабача, узарваўся: «Добра вы любуецеся... Вельмі добра... Заўтра, каб я вас тут ня бачыў!..» Назаўтра Валя апынулася ў катлаване, а Язэп у «прыдурках»...

Клаша, як бачым, была ўжо чацьвёртай дзяўчынай у Язэпа, зь якою завязваўся раман, але раман чысты, не такі, як з Валяй ці тэю менскай Алеськай. На пытаньне Клашы Язэп сказаў праўду: «Я хачу, каб ты была першай, бо ты найпрыгажэйшая дзяўчына ня толькі ў Ваўчку, але ў цэлым сьвеце... Разумееш?..» Клаша вельмі добра зразумела і яшчэ болей зачырванелася. Лабач навучаў Клашу: «Нікому, нават брату не кажы, што я даў табе тэкст, бо як шыла вылязе із мяшка, яно мяне заколе... Мяне могуць аддаць пад суд, а ў лепшым выпадку — выгнаць із дзесяцігодкі. Ды і сама сябе ўтопчаш у гразь».

Клаша дала «чэснае піянерскае», але піянеркай яна ніколі ня была, камсамолкай таксама, а была ў такім узросьце, калі ў галаве вецер гуляе, ня слухаючы ніякіх цугляў і абяцанкаў, а таму пашкадавала братаву каханку Зінку, таксама «адставалку», дала перапісаць дыктоўку...

На экзаменах і Клаша, і Зіна напісалі дыктоўку на «выдатна». Дырэктар і завуч доўга галовы не ламалі над няверагоднай зьявай, адразу здагадаліся, што тут справа нячыстая, бо ўжо ведалі ад Рудакова, што Язэп Лабач «цэліцца ў зяці да пракурора», а таму... А таму выклікалі ў канцылярыю Клашу на допыт, але Клаша не прызналася. Тады ўзяліся за Зіну. Тая доўга брыкалася і расказала ўсё — ад кропкі да кропкі...

Язэпа Лабача на допыт ня выклікалі, а выклікалі толькі па тое, каб уручыць яму «Загад» Раяно, у якім пісалася: «За непэдагагічны паступак: за разгалошаньне тэксту дыктанту па расейскай мове ў 9-й клясе дзесяцігодкі выкладчыка расейскай мовы і літаратуры Лабача Язэпа Міхайлавіча перавесьці ў Давыдаўскую сямігодку на пасаду завуча і выкладчыка мовы і літаратуры». Як кажуць, па галаве пранікам, а па зубах пернікам... Ня меў-бы Лабач «перніка», калі-б Клаша была дачкою не пракурора, а нейкага трактарыста, няхай сабе і «перадавіка». Баяліся дырэктар і завуч пракурора «Чапая», хоць і былі, як і ён, камуністамі.

# ЖАНЧЫНА, ЯКАЯ ХАЦЕЛА ПАРУШЫЦЬ ЗВЫЧАЙНЫ ПАРАДАК



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Вусны нібыта снег.**
**Гэты празрысты свет**
**На залаты пясок,**
**На залатое дно...**

Чула голас, які падтрымлівала скрыпка, і бачыла зусім іншы вобраз — экстравагантнай паненкі з дэкадэнцкімі схільнасцямі.

**Тата, купі мне караблік,**
**Я паплыву ў Амэрыку...**

Чула голас зусім іншай асобы — іранічнага суперпадлетка.

Разоў пяць паганяўшы плёнку, зразумела, што гэта не гулі ў арыгінальнасць — з'явілася новая выканаўца, яркая і самабытная асоба (зусім непадобная на шматлікіх аморфных і невыразных, падобных, як кропелькі вады, адна на адну «зорак»), якая нясе ў мастацтва нешта сваё. Выканаўца-інтэлектуал з выразным самаўсведамленнем сябе прадстаўніком народа з вялікай гісторыяй, выканаўца са светаадчуваннем таго пакалення, якое ўзбунтавалася супраць догмаў камунізму і бездухоўнасці «самага перадавога» ў свеце грамадскага ладу.

...Кася прызначыла мне спатканне дома. З акна кватэры на дзевятым паверсе жывапіснага пейзажу не ўбачыш: адны будынкі, будынкі, будынкі і рэдкія дрэўцы паміж імі.

У адной са сваіх песень і Кася з любасцю - нянавісцю, я б сказала, прыгадвае гэты шэры невыразны краявід. Гараджанка ў трэцім пакаленні, карэнная мінчанка, Кася, аднак, па-свойму і любіць горад. Нават болей: ён яе натхняе.

Кася закурыла цыгарэтку і загаварыла.

— Адкуль мая беларускасць? Не з пялюшак, запэўніваю. Я фактычна сваю першую кнігу на беларускай мове прачытала ў 18 гадоў. Гэта быў раман Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». А ў школе ў нас беларуская мова была зусім занядбаная. Даволі доўгі і марудны быў шлях вяртання... Паспрыяла гэтаму мусіць тое, што апынулася ў асяроддзі такіх самых, як і я, маладых людзей, якія сталі сабе задаваць пытанні: «Хто мы?», «Адкуль?».

— Дзе гэта было?

— Ва універсітэце. Я ж вучылася на гістарычным факультэце ў пачатку 80-х гадоў. Менавіта тады ўзнікла студэнцкая «Майстроўня», пазней «Талака». Туды ўваходзілі студэнты з філалагічнага, журналісты, гісторыкі, іншыя гуманітарыі. Адзін мой знаёмы вельмі трапна назваў людзей гэтага пакалення неабеларусамі. Яны як бы нанава станавіліся беларусамі, авалодваючы мовай, вяртаючы памяць. Немагчыма было жыць так — бязроднымі, без сваіх песень, без сваёй гісторыі

— Дарэчы, Кася, што вам дало вывучэнне гісторыі ва універсітэце?

— Бачыце, я вучылася з цікаўнасцю. Нават гісторыю КПСС, якую ў нас так не любілі студэнты, я здавала на «выдатна». Маючы добрую памяць, з лёгкасцю запамінала цэлыя сказы з твораў заснавальнікаў марксізму-ленінізму і старонку, на якой цытата знаходзіцца, чым прыводзіла ў разгубленасць выкладчыкаў. Зразумела, пра тое, якой была сапраўдная гісторыя, мы не маглі даведацца ні з лекцый, ні з падручнікаў. Ратавала тое, што ўсе мы былі прывучаны чытаць паміж радкамі. Ну і потым, нават аналізуючы тую інфармацыю, што давалі выкладчыкі, можна было зрабіць свае высновы, а калі яшчэ схадзіць у архівы, звярнуцца да дакументаў, падумаць...

— Ці быў такі чалавек у вашым жыцці, які навучыў думаць самастойна, аналізаваць і асэнсоўваць з'явы?

— Не дзівіцеся, я прачытала вельмі шмат артыкулаў, пісьмаў, загадаў, нататкаў Леніна з поўнага збору яго твораў. Мяне па-сапраўднаму зацікавіў гэты феномен. Можа быць, што якраз ён, Ленін, навучыў мяне думаць і суадносіць рэальнасць з тым, што напісана ў падручніках, лагічна разважаць. Некаторыя яго артыкулы проста адкрылі мне вочы на нашу сапраўдную гісторыю. Пазней я ўзялася чытаць Канта і Гегеля... Але ж, самі разумееце, у 18 гадоў так цяжка ўтрымацца каля кніг.

— Зараз многія ўспрымаюць асобу Леніна толькі са знакам мінус. А вы?

— Я нават не ведаю. Цяпер столькі негатыўных матэрыялаў ў прэсе з'явілася... Аб'ектыўна: Ленін быў адметным палітычным лідэрам, які перавярнуў сусвет, надзвычай таленавітым публіцыстам, вучоным. Трэба ўсё ж, лічу я, быць больш аб'ектыўнымі ў ацэнцы гэтай асобы. Гісторыя, спадзяюся, расставіць усе акцэнты.

— Вы займаецеся гісторыяй прафесіянальна?

— Калі яшчэ вучылася на гістфаку, я фактычна адышла ад гісторыі, пачала займацца культуралогіяй. Скончыла аспірантуру пры Белдзяржуніверсітэце, працую сацыёлагам.

— Многія вашы сябры па універсітэту, якія таксама займаліся культуралогіяй, цяпер вельмі актыўныя ў палітыцы, вядомыя людзі. Вы свядома не пайшлі тым жа шляхам?

— Быў час, калі ўсе, хто насіў бел-чырвона-белы значок, размаўляў па-беларуску, спяваў беларускія песні, лічылася, мелі дачыненне да палітыкі. Гэта расцэньвалася як адмаўленне афіцыйнай палітыкі. Дзякуй Богу, тыя часы мінуліся, усё становіцца на свае месцы. І я цяпер, на шчасце, не маю да палітыкі ніякага дачынення. Мяркую, што жанчына ўвогуле не павінна лезці ў тыя сферы, дзе ёсць абмежаванні для яе жаноцкасці. Па-другое, жанчыны не павінны так працаваць на вытворчасці, як нашы бедныя жанчыны, а займацца сабой, сваёй сям'ёй, сваім унутраным светам, кахаць... Ну і потым такі яшчэ аргумент: надыходзіць час, калі кожны павінен рабіць сваю справу. Зноў жа, каб адбылося тое Адраджэнне народа. Калі ты прафесійны палітык — выдатна, а калі душа спявае і па начах вершы складаюцца — хіба тут да палітыкі?

— А вы, Кася, можаце абстрагавацца ад рэалій жыцця, займаючыся мастацтвам?

— З цяжкасцю. Мяне нервуе беларускі народ. І тут я абстрагавацца пры ўсім жаданні не магу.

— Чым?

— Сваёй абыякавасцю, гіпертalerантнасцю... Хаця сама талерантнасць ёсць вельмі станоўчая рыса. Калі талерантнасць мае пад сабой характар уласнай сілы — гэта адно. А калі — характар абыякавасці, вось як цяпер, — зусім іншае. Што за дзіўныя людзі? Ні мова ім не трэба, ні свая дзяржава, абы бульба з салам была. Абы не чапалі... Шкада, што наша талерантнасць грунтуецца часцей на абыякавасці, а не на павазе іншых. Трэба ж ужо нарэшце ачуняць ад векавога сну, зразумець, што часы змяніліся, і не проста чакаць, куды што павернецца, а нешта рабіць і самім у імя сваёй жа будучыні.

— Цяпер у Беларусі ёсць умовы і магчымасці развіваць сваю культуру, мову. І тым не менш, як мы ведаем, людзі не імкнуцца скарыстоўваць такую магчымасць, нават аказваюць глухое супраціўленне беларусізацыі. Як жа павінна паводзіць сябе незалежная дзяржава ў такой сітуацыі?

— З аднаго пункту гледжання, можа і трэба было б зрабіць валюнтарысцкія захады, прыціснуць, прымусіць. Але я ўсё ж такі схіляюся да таго, што да высакародных мэтаў трэба ісці высакароднымі шляхамі і выкарыстоўваць высакародныя сродкі. Дзяржава павінна ствараць спрыяльныя ўмовы для беларускіх выданняў, падтрымліваць нацыянальнае выяўленчае і музычнае мастацтва, рэкламаваць, заахвочваць людзей. Ды і асабісты прыклад улады таксама надзвычай важны. Толькі такі шлях здаецца мне самым нармальным, каб чалавек адчуў, зразумеў, а не тое, каб яго прымусілі, як гэта было нават у часы беларусізацыі ў 1920-я гады.

— Кася, а ці даўно вы ўзялі ў рукі гітару і звярнуліся да слухачоў з гэтымі своеасаблівымі песнямі-маналогамі, дзе такая вялікая ўвага надаецца слову?

— Мне здаецца, што я заўсёды спявала. Для знаёмых і сяброў. А слова для мяне сапраўды многа значыць. У кожным з вершаў, якія я выбірала для выканання, існавала сугучнае майму, па-філасофску трагічнае ўспрыманне свету. Цяпер вершы для мяне піша Таня Сапач і Адам Глёбус. Яны ў асноўным аўтары тэкстаў песень новага альбома, які я нядаўна запісала на радыё.

— Там, дарэчы, вы выконваеце свае песні не пад гітару. Гучыць добрая інструментальная музыка. Што за калектыў?

— Калі шчыра, то мне заўсёды не хапала добрага інструментальнага суправаджэння. Тым больш, я ніколі не лічыла, што добра іграю на гітары, як на маю думку, то даволі трывіяльна. Таму я папрасіла хлопцаў з рок-гурта «Мроя» падыграць мне, каб паспрабаваць запісаць некалькі песень у іншай аранжыроўцы. Да іх далучыліся дзве дзяўчыны з кансерваторыі — віяланчэлістка і скрыпачка. Мы запісалі. Атрымалася няблага. Сталі працаваць у такім складзе і нават далі назву свайму калектыву «Новае неба». З ім мы запісалі ўлетку альбом з 12 песень «Дзеці чорнага горада», ён будзе выдадзены сумесна радыёстанцыяй «Беларуская маладзёжная» і Домам грамзапісу кампакткасетамі. Грошы на запіс гэтага альбома нам былі прысланы з Амерыкі Вітаўтам Кіпелем.

— Эпоха перабудовы дала вам магчымасць быць пачутай мільёнамі слухачоў. А ці забаранялі якія-небудзь вашыя песні раней?

— Першы раз чую. І хаця мяне зусім нядаўна запісалі на радыё, гэта не азначае, што мне нешта забаранялася, не дазвалялася. Справа куды прасцейшая: у нас паганая якасць гуказапісу, неразвітая музычная індустрыя, менеджмент і элементарная абыякавасць тых людзей, якія кіруюць культурай.

— Мне здаецца, што вы па натуры аптымістка, лірык. А ў песнях вашых адчуваюцца нейкі надрыў, боль, трывога...

— Я хацела б напісаць добрую песню пра каханне, пра светлыя пачуцці. Гэта так трэба ўсім нам. Але ва ўсіх паэтаў, якія бяруцца напісаць словы для такой песні, нічога не атрымліваецца. Я хацела б спяваць лірыку, гэта праўда. Але не такую, што ў нас гучыць па радыё, з тэлеэкранаў, а сапраўдную, глыбокую. Мусіць, каб не было надрыву, болю, трэба, каб і час наступіў іншы. Гэты неспакой, нявырашанасць і асабістага лёсу, і лёсу краіны — яно ўсё так цісне, што атрымліваецца вельмі змрочным. Хаця мне ўвогуле хацелася б быць далей ад палітыкі, ад трагедыі, жыць у нармальным свеце, дзе кветкі, каханне, сонца.

— Вы сказалі, што хацелі б выхаваць у сваёй дачкі пачуццё незалежнасці, здольнасці вырашаць свой лёс. А сябе вы адчуваеце такім чалавекам?

— Мне 28 гадоў. І як асоба я фарміравалася ў часы «развітога сацыялізму». Напэўна, сістэма зрабіла з намі нешта такое, што ўсе мы вельмі цяжкія на пэўныя крокі, на ўчынкі. І на маё ж жыццё выпаў час, які не перажываў, можа, ніхто з Кастрычніцкай рэвалюцыі. Філосафы нават не маглі прадбачыць хуткасці зменаў, нечаканасці паваротаў нашай гісторыі. Яна дала нам, беларусам, такі шанц!

Менавіта цяпер я адчуваю сябе чалавекам, ад якога нешта залежыць. Часта ламаючы старую псіхалогію, змагаючыся з сабой, рабыняй і бальшавічкай адначасова, я спяваю песні, якія, спадзяюся, патрэбны маім слухачам.

**Таццяна АНТОНАВА.**

## ХТО ЯК ЖЫВЕ

Слава і гонар нацыянальнай сцэны, вядомы не толькі ў нас артыст купалаўскага тэатра Здзіслаў Стома атрымлівае самую маленькую пенсію: 350 рублёў. А месячная заработная плата вядучых артыстаў, майстроў сцэны, якія маюць званні «народных» ці «заслужаных» артыстаў, на 500 рублёў меншая, чым у вадзіцеля трамвая.

Саюз мастакоў Беларусі закупіў у сваіх членаў на 4 мільёны рублёў (у старых цэнах) карцін і скульптур, але ўсе яны ні разу не выстаўляліся нідзе: ляжаць, схаваныя ад людскога вока ў запасных памяшканнях.

Гэтыя і іншыя лічбы і факты прыводзіліся на нядаўнім аб'яднаным пленуме творчых саюзаў і грамадскіх фондаў Рэспублікі Беларусь. Пленум выказаў недавер Вярхоўнаму Савету, які скампраметаваў сябе некампетэнтнасцю, непрафесіяналізмам, адрывам ад рэальнага жыцця і патрэб народа. Прынята рашэнне стварыць Камітэт абароны культуры і падрыхтаваць устаноўчую канферэнцыю Асацыяцыі творчых саюзаў і грамадскіх фондаў. Рыхтуецца зварот у ЮНЕСКА аб стане беларускай нацыянальнай культуры.

Падставай для правядзення пленума паслужыла падатковая палітыка дзяржавы, якая вядзе да самаліквідацыі творчых саюзаў Беларусі.

## СВАЁ МАЕМ— НЕ ШАНУЕМ

Газета «Звязда» надрукавала разгневаны ліст свайго чытача Сяргея Доваля з Запарожскай вобласці (Украіна). Ён датычыцца папулярнага ў нас спевака Яраслава Еўдакімава. Выступаючы з канцэртамі на Украіне, былы саліст Беларускага тэлебачання і радыё Я. Еўдакімаў у інтэрв'ю газеце «МИГ» заявіў, што ён «украінец па нацыянальнасці і духу».

Благога ў гэтым, бадай, нічога няма, каб не наступнае рэзюмэ артыста: «Мяне многія лічылі беларусам, таму што я спяваў шмат песень на беларускай мове — такое было патрабаванне яшчэ задоўга да перыяду, што называецца перабудовай. Я спяваў, але ўнутры ў мяне ўсё пратэставала — ну як можна спяваць, калі гэта не твая родная мова».

Пакрыўджаны і абражаны чытач «Звязды» не разумее, як можна жыць у Беларусі, насіць званне народнага артыста рэспублікі і... абражаць яе. А справа тут вельмі простая: беларускія чыноўнікі ад культуры ніколі не шанавалі сваё — нацыянальнае. Таму гастралёры з усяго былога Саюза лёгка знаходзілі прыстанішча на сцэнах нашых тэатраў. Яны тут добра меліся, атрымлівалі дзяржаўныя кватэры, розныя высокія і пачэсныя званні. Займеўшы такія козыры, лёгка мянялі Мінск на Маскву, Кіеў, Адэсу ці які іншы горад.

Затое нашым, беларускім талентам, на сваю нацыянальную сцэну было не прабіцца. Іх прызнавалі ў славутых тэатрах Расіі і іншых рэспубліках былога СССР, толькі не ў сябе на радзіме.

# НЁМАН, НЯМУНАС, МЕМЕЛЬ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

У раннім жалезным веку нёманскія мясціны насялялі лясныя людзі — яцвягі. А з дзесятага тысячагоддзя на большай частцы Панямоння жылі славяне, якія спачатку падначальваліся Кіеўскаму княству, а ў палове XIII стагоддзя ў яго межах з'явілася адна з самых буйных і моцных у Еўропе дзяржаў — Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае.

...Мне надарылася магчымасць пабываць ля вытокаў Нёмана, доўгі час непасрэдна наглядаць яго ў сярэднім цячэнні, дабрацца і да яго выхаду ў Балтыйскае мора. І ўсюды ён розны і непаўторны. І заўсёды Нёман аддана працаваў на людзей. Лясы па яго берагах, грыбы і ягады, заліўныя лугі, рыба, ракі, жорны млыноў, каналы, што вядуць да яго — Агінскі і Аўгустоўскі, — усё гэта стварала славу Нёману, Нямунасу, Мемелю. «Божым шляхам», «бацькам», «працаўніком» называлі ў даўнія часы гэтую раку ў народзе.

Па ёй з Беларусі ў Прусію і іншыя краіны ішоў лес, зерне, лён, каноплі, мёд, воск, дзічына, смала, футра, рамесныя вырабы, дзіўны жэмчуг з крынічных беларускіх рэчак. А стронга (фарэль) з Беларусі, як кажуць даведнікі, ішла да стала французскіх каралёў.

Агульны вадазбор Нёмана — 98,2 тысячы квадратных кіламетраў, што складае больш 20 працэнтаў тэрыторыі нашай рэспублікі.

А колькі рэк упадае ў Нёман? Ад вытокаў і да вусця ў яго ўліваецца каля 160 прытокаў. Падам назву толькі некаторых з іх: Лоша, Уса, Шчара, Котра, Бярэзіна, Гаўя, Зяльвянка, Свіслач, Вілія, Вялля, якія цякуць па тэрыторыі Беларусі.

Але не толькі радасць і карысць прыносіў і прыносіць Нёман. Аб яго буйным характары, каварстве шмат пісалася, ад яго разліваў і паводак неаднаразова пакутавалі і Масты, і Гародня, і Друскенікі, і Каўнас, і Савецк, і шмат іншых населеных пунктаў.

Калі едзеш з Гародні ў Друскенікі, то можна ўбачыць, як ад шашы пачынаецца лагчына, густа парослая лесам, а калі яшчэ крыху праедзеш, то раптам твой позірк зачэпіцца за ганак, а за ім абрыў... Калісьці на гэтым месцы быў Райгарад. Вось з ім Нёман і састроіў злы жарт, ён падмыў бераг, і ноччу сонны горад абрушыўся ў хуткія воды ракі. З таго часу і застаўся гэты ганак на краі абрыву.

Трэба ўспомніць і аб адным незвычайным праекце, звязаным з Нёманам. У 1771 годзе ад Гародні да Вяллі гучалі магутнейшыя выбухі, якімі ўзарвалі да 3 мільёнаў вялікіх камянёў. У 1776 годзе гэтыя выбухі пагаслі, у выніку рэчышча Нёмана было ачышчана ад парогаў. Хто здзейсніў гэты праект? Ім быў Францішак Мелiконт Нарвойш, славуты матэматык і інжынер. У 1992 годзе будзе 250 гадоў з дня яго нараджэння.

У кнізе В. Фядотава і А. Цытлёнка «Мінералы, горныя пароды і глебы роднага краю» (выдавецтва «Народная асвета», 1987 г.) апавядаецца аб прыродных багаццях, якія маюцца ў Нёманскім краі — гэта Аколаўскае радовішча жалезістых кварцытаў з перавагай сілікатна-магнетытавых рознасцей, Навасёлкаўскія радовішчы ільменіт-магнетытавых руд. Гэтыя радовішчы маюць найважнейшую сыравіну для атрымання чыгуну і сталі. А рачны пясок у раёне мястэчка Бярозаўка дае магчымасць шклозаводу «Нёман» вырабляць амаль 700 відаў непаўторных рэчаў з крышталю і шкла.

Шмат напісана пра Нёман класікам беларускай літаратуры Якубам Коласам, другімі вядомымі нашымі паэтамі і пісьменнікамі. Польская пісьменніца Э. Ажэшка прысвяціла яму сваю кнігу «Над Нёманам». Аддаў гэтай магутнай рацэ свой дар і талент рускі паэт Фёдар Цютчаў:

**Ты ль это, Нёман величавый?**
**Твоя ль струя передо мной?**

А самы лепшы твор-гімн напісалі паэт А. Астрэйка і кампазітар Н. Сакалоўскі, яны так і далі яму найменне «Песня пра Нёман»:

**Ой, Нёман, і песня і слава**
**Народа майго і зямлі...**

Міхась МАЛІНОЎСКІ.

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Шукаецца **КАРМІЛЬЧЫК Мікалай Сцяпанавіч,** прыкладна 1910 года нараджэння, які ў 1928—1929 годзе паехаў з Беларусі, вёскі Пенчычы, у Канаду.

Яшчэ раней яго родныя браты выехалі: **Пётр** — у ЗША, а **Павел** — у Аргенціну.

Калі хто-небудзь ведае пра памянёных **КАРМІЛЬЧЫКАЎ,** а таксама пра іх дзяцей, унукаў, просім паведаміць у рэдакцыю ці на адрас:

**Рэспубліка Беларусь, 220002, г. Мінск,**
**вуліца В. Харужай, д. 39, кв. 1.**

**ПАЧАБЫТУ Баляславу Філяр'янавічу.**

Іх шукае сын роднай сястры **КАРМІЛЬЧЫКАЎ (Антаніны Сцяпанаўны) ПАЧАБЫТ Баляслаў Філяр'янавіч.**

**Сустрэча з маладым браслаўскім мастаком Валерыем Зянкевічам дала падставы да разваг аб сітуацыі, якая склалася ў апошнія гады ў асяроддзі творчай моладзі. З трывогай гаварыў Валерый, што, вырашаючы матэрыяльныя праблемы, таленавітыя хлопцы ідуць у кааператывы, малыя прадпрыемствы, дзеля камерцыі падстройваюцца пад непатрабавальны густ абывацеляў і пачынаюць «тварыць» нізкапробныя вырабы. На паток ставяцца аднатыпныя разныя зубры, арлы, барэльефы з аленевымі і ласінымі рагамі. І на гэтым часта канчаецца мастак.**

**І Валерый Зянкевіч ледзь было не паддаўся гэтай пошасці. Але не пра тое ён марыў, калі пасля заканчэння мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута вярнуўся ў Браслаў. Марыў ажыццявіць планы, народжаныя ў віцебскім творчым аб'яднанні «Узгор'е» — адраджаць і развіваць традыцыі беларускіх народных рамёстваў. І асабліва разьбы па дрэву: марылася Валерыю стварыць своеасаблівы браслаўскі стыль разьбы.**

**Цяпер працуе над гэтым сам, шукае аднадумцаў. І разумее, што без пераемнасці не зможа рэалізаваць гэтую ідэю. А таму пайшоў працаваць у Браслаўскі вучэбна-вытворчы камбінат, дзе вядзе аддзяленне рэзчыкаў па дрэву. Хто з яго вучняў стане прыхільнікам ідэі настаўніка — пакажа час.**

**Маладосці ўласцівы аптыміз. І будзем спадзявацца, што мара Валерыя Зянкевіча набудзе крылы. Асабліва, калі сустрэне ён разуменне і практычную падтрымку раённых аддзелаў народнай адукацыі і культуры.**

**Я. КАЗЮЛЯ.**



**НА ЗДЫМКУ: Валерый ЗЯНКЕВІЧ.**

**Фота аўтара.**

*СПОРТ*

# *ЯК ЦЯЖКА ДАЮЦЦА МЕДАЛІ*

Адна з цэнтральных газет былога Саюза ў рэпартажы з зімовай Алімпіяды ў Альбервілі падала такую статыстыку: у камандзе СНД 141 спартсмен; 118 з іх прадстаўляюць Расію, па 8 — Украіну і Казахстан, 3 — Рэспубліку Беларусь і 2 — Узбекістан. Ускосна аўтар дае зразумець, што Расія магла б абысціся і без прадстаўнікоў іншых дзяржаў.

Вядома, магла б. Высакакласных спартсменаў у Расіі нямала. Але, прыводзячы лічбы, рэпарцёр забывае, што многія з тых, каго ён лічыць «рускімі», выхаванцы іншых былых рэспублік і менавіта там, а не ў Расіі яны сталі выдатнымі спартсменамі.

За хакейную каманду СНД, напрыклад, зараз выступае мінчанін Мікалай Баршчэўскі, а яго называюць масквічом. Прычым, Мікалай — лепшы нападаючы каманды, закінуў чатыры шайбы.

Другі прыклад. Залаты медаль па фігурнаму катанню ў парным разрадзе на Гульнях заваявала выхаванка беларускага спорту Наталля Мішкуцёнак, а яе і аўтар газетнага рэпартажу, і аўтары тэлевізійных перадач з Альбервіля прадстаўляюць... як спартсменку з Санкт-Пецярбурга.

Такой бяды з гэтымі «дробязямі». Мы ведаем, што на наступнай Алімпіядзе Рэспубліка Беларусь будзе выступаць асобнай камандай і падобныя недарэчнасці знікнуць. А пакуль мы страсна «хварэем» за ўсіх спартсменаў зборнай СНД, якія і радуюць, і засмучаюць.

Выдатна пачалі спаборніцтвы на Гульнях нашы лыжніцы. У гонцы на 15 кіламетраў першае месца заняла Любоў Ягорава, а трэцяе — Алена Вяльбе.

Поспех спадарожнічаў і нашым біятланісткам: «золата» ў Анфісы Разцовай і «бронза» ў Алены Бяловай.

І ў той жа час поўная няўдача ў нашых лыжнікаў, біятланістаў. Надта ж марудна растуць паказчыкі ў канькабежцаў... Вельмі спадзяёмся тут на мінчаніна Ігара Жалязоўскага. Крыўдна за Святлану Парамыгіну з Навапалацка. Гэту лыжніцу пакуль трэнеры СНД не выпускаюць на дыстанцыі. Перад ад'ездам на Гульні Святлана ж паказвала добрыя вынікі на спаборніцтвах.

Праўда, наперадзе яшчэ многа стартаў у Альбервілі. І, магчыма, мы парадуемся за прадстаўнікоў нашай рэспублікі.

Пакуль жа зборная СНД заваявала 14 медалёў. З іх 5 — залатыя.

Яўген ІВАНОЎ.



**Тэнісны бум на Беларусі пачаўся пасля таго, як на спартыўным небасхіле ярка заззяла зорка Наталлі Зверавай. Але хутка яна стала прафесіяналам. І амаль не ўдзельнічае ў чэмпіянатах рэспублікі і міжнародных турнірах, якія праводзяцца ў Беларусі. Аднак на змену Зверавай прыйшла вялікая група маладых перспектыўных спартсменак. Адна з іх — Марына Стэц. Нядаўна дзяўчынка стала прызёрам міжнароднага турніру тэнісістак, прысвечанага памяці знакамітага ваеннага лётчыка А. Грошава.**

**НА ЗДЫМКУ: ў гульні — Марына СТЭЦ.**

**Фота І. ВАЛЯНЦІНАВА.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 332.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12